ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 36 (2594)

10 верасня 1998 г.

Выдаецца з 1955 г.

Цана 2000 рублёў.

*ПОСТАЦІ*

## ЦАМБЛАК І ВІТАЎТ

На пачатку XV стагоддзя абвастрыліся адносіны паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Маскоўскім княствам. Экспансіянісцкая знешняя палітыка Вітаўта наткнулася на процідзеянні Васіля І Дзмітрыевіча (1371—1425), старэйшага сына Дзмітрыя Данскога, вялікага князя маскоўскага з 1389 года, які працягваў працэс аб'яднання старажытнарускіх земляў. У гэтым процістаянні кожны бок імкнуўся знайсці падтрымку ў асобе мітрапаліта. І таму кожны бок хацеў бачыць на мітрапаліцкім прастоле прыхільніка сваёй палітыкі. Зразумела, што барацьба за мітрапаліцкі прастол заняла ў той час значнае месца ў знешнепалітычнай дзейнасці абедзвюх дзяржаў.

І менавіта таму, калі ў 1406 годзе памёр мітрапаліт Кіпрыян (1336—1406), з Вільні і Масквы амаль адначасова накіраваліся ў Канстанцінопаль дзве дыпламатычныя місіі. Паслы Вітаўта ад імя вялікага князя літоўскага прасілі канстанцінопальскага патрыярха, каб на пасаду мітрапаліта быў вылучаны полацкі біскуп Феадосій. Паслы Васіля Дзмітрыевіча, жадаючы выклікаць прыхільнасць патрыярха, дыпламатычна адмовіліся ад прапановы свайго кандыдата і прасілі патрыярха прызначыць мітрапаліта па старому звычаю — на сваё патрыяршае меркаванне. У верасні 1408 года кіеўскім мітрапалітам быў прызначаны грэк Фоцій (мітрапаліт з 1408 — па 1431 год), які пачаў падтрымліваць палітыку Васіля І. Вітаўт пагадзіўся прызнаць Фоція мітрапалітам пры ўмове, што апошні будзе жыць у Кіеве (тады ў межах ВКЛ). Аднак Фоцій месцам свайго жыхарства абраў Маскву.

Тады Вітаўт, паколькі не жадаў падпарадкоўвацца ў царкоўных адносінах іншай, варагаваўшай з ім дзяржаве, вырашыў стварыць аўтакефальную (незалежную) праваслаўную царкву ВКЛ і паставіць на чале яе свайго мітрапаліта. Прыхільніка сваіх планаў ён знайшоў у асобе Рыгора Цамблака (1365—1419), балгарына, усебакова адуканага чалавека, які з-за акупацыі краіны Турцыяй стаўся палітычным выгнаннікам. Пасля турэцкай агрэсіі ён жыў у Візантыі, Сербіі Малдавіі і нарэшце знайшоў сабе прытулак у ВКЛ. Тут ён набыў значную вядомасць як вучоны і царкоўны прамоўца. Менавіта яго кандыдатура здалася Вітаўту найбольш прыдатнай на пасаду літоўскага мітрапаліта. 15 лістапада 1415 года на саборы праваслаўных біскупаў у Навагрудку Рыгор Цамблак быў узведзены ў сан мітрапаліта без згоды канстанцінопальскага патрыярха. Гэта быў смелы акт з боку Р. Цамблака. Імя яго было аддадзена праклёну як канстанцінопальскім патрыярхам, так і мітрапалітам Фоціем, які знаходзіўся ў Маскве. Але Р. Цамблак пайшоў на гэта таму, што цалкам падтрымліваў палітычныя планы Вітаўта, яго імкненне да пераўтварэння ВКЛ у самастойную дзяржаву, якая была б у поўнай незалежнасці ад Польшчы. Р. Цамблак марыў аб стварэнні ў гэтай дзяржаве моцнай і аўтарытэтнай праваслаўнай царквы, прызнанні праваслаўя дзяржаўнай рэлігіяй ВКЛ і нават марыў аб пераходзе Вітаўта ў праваслаўе. Апрача таго, ён звязаў з Вітаўтам надзею на актывізацыю вызваленчай барацьбы славянскіх народаў з татарамангольскай і турэцкай навалай.

Таму заканамерна, што адзін з глыбокіх, сур'ёзных даследчыкаў царкоўнай і палітычнай гісторыі Беларусі арцыбіскуп Афанасій Мартас у сваёй працы "Беларусь у гістарычным, дзяржаўным і царкоўным жыцці" (першае выданне выйшла ў 1966 годзе ў Буэнас-Айрэсе, другое — у Мінску ў 1990 годзе) адзначыў, што ў тых умовах учынак Р. Цамблака "з дзяржаўнага пункту гледжання, быў неабходным, але кананічна ён не можа быць апраўданы".

Пасля абрання Р. Цамблак накіраваўся ў Кіеў на мітраполію. Там ён прабыў да лютага 1416 года. Пасля таго як Кіеў быў разграблены нагайскай ардой, Р. Цамблак перанёс мітрапаліцкую кафедру з Кіева ў Вільню, а сваёй рэзідэнцыяй зрабіў Навагрудак.

У пачатку 1418 года па жаданню Ягайлы і Вітаўта з ВКЛ у Заходнюю Еўропу выехала прадстаўнічая дэлегацыя праваслаўных біскупаў і святароў (усяго каля 30 асоб) на чале з Рыгорам Цамблакам

(Заканчэнне на 5-й стар.).

### СКУЛЬПТАРЫ-РАЗЬБЯРЫ Ў МІКАЛАЕЎШЧЫНЕ



**У Мікалаеўшчыне, што ў Стаўбцоўскім раёне, завяршыўся пленэр скульптараў-разьбяроў па дрэву, арганізаваны Беларускім саюзам майстроў народнай творчасці. У ім прынялі ўдзел разьбяры са Століншчыны, з Смалявіцкага раёна, Маладзечна і Мінска.**

**НА ЗДЫМКУ: удзельнікі пленэра каля крыжа памяці Міхаіла КОРАБАВА.**

(Заканчэнне фотарэпартажу на 7-й стар.).

### ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



**Па дарозе на Мір недалёка ад Карэлічаў ёсць маленькі вадаём — не больш дваццаці метраў у дыяметры. А называюць яго мясцовыя жыхары "чортавым акном". Нікому яшчэ не ўдавалася змерaць яго глыбіню. Вада ў ім не зарастае. Гавораць, некалі тут былі непраходныя балоты. Прайшла меліярацыя, а "акно" так і засталося. Не знайшоўшы ў ім дна, людзі аднеслі гэтае месца да ведамства "нячыстай сілы".**

**НА ЗДЫМКУ: і дарожным будаўнікам не скарылася "чортава акно".**

**Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.**

ТУРЫЗМ

## КРЫНІЦА ПАСТУПЛЕННЯ ВАЛЮТНЫХ СРОДКАЎ

**Вынікі мінулага года і пачатку 1998 дазваляюць гаварыць аб тым, што паступова турызм становіцца для краіны крыніцай паступлення валютных сродкаў. Аднак пры існуючым узроўні сервісу, а таксама становішчы ў сферах харчавання і гасцінічнага бізнесу наўрад ці варта разлічваць, што ў хуткім часе турызм пачне прыносіць Беларусі сур'ёзныя даходы.**

Ужо завершана распрацоўка Закона аб турызме. Аднак у парадак дня Нацыянальнага сходу на гэты год закон не трапіў і магчыма будзе прыняты восенню альбо ў пачатку будучага года. Пакуль жа рэгуляванне адносін у сферы турызму адбываецца на падставе часовых правілаў аб парадку ажыццяўлення турысцкай дзейнасці на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

Па даных Міністэрства спорту і турызму, агульныя турысцкія паступленні за 1997 год склалі каля 300 мільёнаў долараў. Доля даходу ад экспарту турысцкіх паслуг тады ж склала прыкладна 5 працэнтаў у агульным экспарце Беларусі. Паступленні ад замежных наведвальнікаў склалі прыкладна 140—150 мільёнаў долараў, якія пайшлі як у бюджэтную, так і ў пазабюджэтную сферу. Паступленні ад аднадзённых наведвальнікаў прынеслі каля 80—90 мільёнаў долараў. Плацяжы непасрэдна за турысцкія паслугі склалі 26 мільёнаў долараў, а за візавыя афармленні пры ўездзе ў рэспубліку — каля 1 мільёна долараў. Па выніках І квартала 1998 года, які, як правіла, з'яўляецца для турызму

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

АФІЦЫЙНА

### ВІЗІТ В'ЕТНАМСКАГА ПРЭЗІДЭНТА

**Падпісаннем чатырох важных міжурадавых пагадненняў закончыўся афіцыйны візіт у нашу краіну Прэзідэнта В'етнама Чан Дык Льюнга. Члены ўрадаў дзвюх краін паставілі свае подпісы пад дагаворамі аб ваеннатэхнічным супрацоўніцтве, аб супрацоўніцтве паміж Нацыянальным банкам Беларусі і Дзяржбанкам В'етнама, міністэрствамі адукацыі абедзвюх краін.**

**У Жодзіне быў падпісаны мемарандум аб пастаўках у В'етнам кар'ерных самазвалаў на суму 13,5 мільёна долараў. Мемарандум, заключаны ВА "БелАЗ" і карпарацыяй "Вінакоп" у час наведвання высокага в'етнамскага госця найбуйнейшага ў Еўропе вытворцы кар'ернай тэхнікі, прадугледжвае не толькі гандаль нашымі вялікагрузнымі самазваламі, але і стварэнне ў В'етнаме сеткі сервіснага абслугоўвання беларускай тэхнікі.**

**Каменціруючы вынікі візіту, Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што Беларусь і В'етнам стварылі нарматыўна-прававую базу, якая здольная стаць надзейным плацдармам для нарошчвання патэнцыялу эканамічнага супрацоўніцтва паміж нашымі краінамі.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

### АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА АБ СІТУАЦЫІ Ў РАСІІ

**Адказваючы на пытанні журналістаў пасля падпісання беларуска-в'етнамскіх дакументаў, Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што падзеі ў Расіі ён успрымае з вялікім жалем. "Гэта вышэйшы чарговы псіхоз. Усё, што там адбываецца, мала звязана з эканомікай — ідзе палітычны гандаль, у час якога ніхто не думае аб людзях. Таму я сёння далёкі ад таго, каб гаварыць аб нейкіх сцэнарыях. Гэта справа расійскага боку. Сёння стаіць пытанне аб выбары далейшага шляху, і кіраўніцтву Расіі давядзецца вызначаць і выбіраць".**

**Прэзідэнт адзначыў, што "ў сілу многіх аб'ектыўных прычын склалася унікальная сітуацыя — не было б шчасця, ды няшчасце дапамагло, — якая садзейнічае большай інтэграцыі і падштурхоўвае да збліжэння кіраўніцтвы як мінімум трох дзяржаў ва ўсіх сферах. Калі гэтага не адбудзецца, то будзе ўчынена злачынства перад народамі Расіі, Беларусі і Украіны".**

ДЗЕНЬ ВЕДАЎ



**У Дзень ведаў — 1 верасня ў Мінску на плошчы Незалежнасці прайшло свята вучнёўскай моладзі сталіцы "Віват, студэнт!", праведзенае па ініцыятыве Беларускага дзяржаўнага універсітэта.**

**Фота Мікалая ПЯТРОВА, БелТА.**

МЫ І СВЕТ

### ЛЕПШ РАЗУМЕЦЬ АДЗІН АДНАГО

**З двухдзённым візітам Гродна наведала кансультацыйна-назіральная група Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе. У членаў групы, якую ўзначальвае Ханс-Георг Вік, адбыліся знаёмствы з прадстаўнікамі ўладных структур і грамадскіх арганізацый горада.**

**Гасцей прыняў старшыня Гродзенскага аблвыканкома Аляксандр Дубко. У час сустрэчы, якая праходзіла ў прысутнасці журналістаў, размова ішла аб эканамічным, культурным і сацыяльным развіцці рэгіёна, аб становішчы апазіцыі, аб партыях і рухах, іх вазе ў палітычным жыцці рэспублікі, аб рэйтынгу беларускага Прэзідэнта і яго шансах на перамогу ў будучых выбарах.**

**Кіраўнік вобласці запрасіў замежных гасцей, месцам работы якіх стала Беларусь, прыязджаць на Гродзеншчыну парыбачыць і папаляваць — магчыма, у неафіцыйнай абстаноўцы бакі лепш зразумеюць адзін аднаго.**

### БЕЛАРУСКА-КІТАЙСКАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА

**Мы ўдзячныя кіраўніцтву і парламенту Кітайскай Народнай Рэспублікі за падтрымку, якую яны аказваюць Нацыянальнаму сходу Беларусі на міжнародным узроўні. Аб гэтым заявіў намеснік старшыні Палаты прадстаўнікоў беларускага парламента Уладзімір Канаплёў на сустрэчы з дэлегацыяй Камуністычнай партыі Кітая, якая знаходзілася ў рэспубліцы па запрашэнню сваіх калег з Беларусі.**

**Абодва бакі з задавальненнем адзначылі той факт, што развіццё двухбаковых кантактаў паміж Беларуссю і Кітаем набывае ўсё большую дынаміку. На зусім новы этап выйшлі і міжпарламенцкія сувязі.**

**Беларускія дэпутаты і кітайскія камуністы пацвердзілі ўзаемнае жаданне гэтак жа паспяхова супрацоўнічаць ва ўсіх найважнейшых сферах жыцця.**

УЗНАГАРОДА ПІВАВАРАМ



**Міжнароднае прызнанне набыла прадукцыя Полацкага піваварнага завода. Піва "Юбіляр" удастоена сярэбранага медаля, а "Канкурэнт" — ганаровага дыплома міжнароднай выставы "Піва-98", якая праходзіла ў Мінску.**

**НА ЗДЫМКУ: піва "Юбіляр" і "Канкурэнт" — прызёры выставы.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

ЗНАХОДКА ГЕОЛАГАЎ

### НАФТА Ў ГЛУСКІМ РАЁНЕ

**Поспехам скончыліся пошукі брыгады майстра Валерыя Яцухна з Мазырскай нафтаразведачнай экспедыцыі вытворчага аб'яднання "Белгеалогія" ў Глускім раёне Магілёўскай вобласці. Пры выпрабаванні свідравіны № 10 на Нова-Драздоўскай плошчы атрыманы прыток нафты аб'ёмам да 13 кубаметраў у суткі. Геолагаразведка плануе ў гэтым годзе павялічыць разведаныя запасы нафты на 400 тысяч тон.**

ЮБІЛЕІ

### САЮЗУ ПАЛЯКАЎ БЕЛАРУСІ — 10 ГАДОЎ

**6 верасня 1988 года ў Гродне было створана польскае культурна-асветніцкае таварыства імя Адама Міцкевіча, якое праз два гады пераўтварылася ў Саюз палякаў Беларусі.**

**На прэс-канферэнцыі з нагоды юбілею гэтай арганізацыі яе старшыня Тадэвуш Гавін назваў галоўнай мэтай саюза нацыянальнае адраджэнне палякаў у Беларусі праз адкрыццё польскіх школ, увядзенне польскай мовы ў беларускіх і рускіх школах, выданне польскамоўных газет і часопісаў. Першая польская школа адкрылася ў Гродне два гады таму, яшчэ адна цяпер будуецца ў Ваўкавыску. Цэнтры польскай культуры створаны ў Гродне, Лідзе, Баранавічах, Магілёве. У эфір абласнога тэлебачання выходзяць перадачы на польскай мове, у Гродне выдаецца польскамоўная газета. Яшчэ адна задача Саюза палякаў — навучанне беларускай моладзі ў ВНУ Польшчы.**

**Сярод праблем, якія сёння найбольш хвалююць Саюз палякаў, Тадэвуш Гавін адзначыў тое, што ў Беларусі не друкуюцца падручнікі на польскай мове, іх вымушаны прывозіць з Польшчы і Літвы. Акрамя таго, другі год не вырашаецца пытанне наконт будаўніцтва польскай школы ў Навагрудку.**

**Па гэтай прычыне Саюз палякаў не возьме афіцыйнага ўдзелу ва ўрачыстых мерапрыемствах, прысвечаных 200-годдзю з дня нараджэння Адама Міцкевіча, якія незабаве адбудуцца ў Навагрудку. Гэты юбілей саюз адзначыць адкрыццём помніка Міцкевічу каля сваёй сядзібы ў Гродне. Праводзяцца экскурсіі "Шляхам Міцкевіча". А яшчэ — прысвечаныя паэту чытанні, фестываль польскай песні.**

НЯСВІЖСКІ СКАРБ



**Пры падрыхтоўцы да свята "Дажынкі-98" у час будаўнічых работ на Ратушнай плошчы ў Нясвіжы знойдзены скарб сярэбраных манет Расійскай дзяржавы, датаваных 1890—1914 гадамі.**

**НА ЗДЫМКУ: манеты са знойдзенага скарбу.**

**Фота Аляксандра ДЗІДЗЕВІЧА, БелТА.**

СТЫХІЯ

### ПАДЛІЧАНЫ СТРАТЫ

**У Століне завершаны падлік страт, нанесеных раёну летняй паводкай, якія склалі вялікую суму — 587 мільярдаў рублёў.**

**Ад стыхіі пацярпелі больш за 20 тысяч чалавек. Паводкай пашкоджана 45 жылых дамоў, сотні вытворчых памяшканняў і аб'ектаў сацкультбыту, знішчана 33,6 тысячы гектараў сельгасугоддзяў, у тым ліку каля 5,5 тысячы гектараў збожжавых.**

**Цяпер раённыя ўлады шукаюць магчымасці, каб людзям, якія трапілі ў бяду, аказаць неабходную дапамогу.**

ЗДАРЭННІ

### СПЫНЕНЫ ПАЛЁТ

**5 беларускіх лётчыкаў і 8 грамадзян Анголы загінулі ў выніку авіякатастрофы, што адбылася 26 жніўня за 80 кіламетраў на поўдзень ад Луанды.**

**Былы ваенна-транспартны самалёт АН-12 належаў нашай авіякампаніі "ТэхАвіяСервіс". Экіпаж, што складаўся таксама з былых ваенных лётчыкаў, меў вялікі вопыт работы на міжнародных лініях, а таксама дастаткова час налёту. Сярэдні ўзрост авіятараў складаў 37—38 гадоў.**

**Па першапачатковых даных, прычынай трагедыі з'яўляецца спыненне работы аднаго рухавіка ў паветры і загаранне другога. Аднак, улічваючы складанае геапалітычнае становішча ў Анголе, не выключаецца магчымасць дыверсіі. Узбуджана крымінальная справа. На месца трагедыі выехала камісія, у склад якой увайшлі прадстаўнікі Міждзяржаўнага авіяцыйнага камітэта, Дзяржкамітэта па авіяцыі Беларусі і "ТэхАвіяСервіса".**

БУДУЦЬ ЯБЛЫНІ РАСЦІ...



**У калгасе імя XXII з'езда КПСС Крычаўскага раёна 15 гектараў саду. Цудоўныя яблыкі 90 сартоў вісяць на галінах, як гронкі вінаграду. Пладаносяць яблыні кожны год.**

**Сын старшыні калгаса Ігар Сапранецкі скончыў пасля арміі Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію. І вось ужо 8 гадоў працуе ў гаспадарцы садаводам. Цяпер у яго шмат клопатаў. Уже падрыхтаваны ямы для пасадкі дзвюх тысяч дрэў — будуць расці новыя яблыні. А ў старым садзе ў гэты час рыхтуюць скрыні для яблык. Іх адпраўяць у Санкт-Пецярбург, у калгасны магазін у Магілёве. Забяспечаць сваімі фруктамі дзяцей у мясцовай школе і наведвальнікаў калгаснай сталовай. У пачатку кастрычніка гаспадарка будзе прадаваць саджанцы яблынь усім жадаючым.**

**НА ЗДЫМКУ: аграном-садавод Ігар САПРАНЕЦКІ.**

**Фота Валерыя БЫСАВА, БелТА.**

АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ

САВЕТ МІНІСТРАЎ Рэспублікі Беларусь пастанавіў устанавіць з 1 кастрычніка 1998 года мінімальную заработную плату ў памеры 350 тысяч рублёў. Тарыфная стаўка І-га разраду ўстанаўліваецца ў памеры 700 тысяч рублёў для аплаты працы работнікаў бюджэтнай сферы.

СЕНСАЦЫЯЙ не толькі для Белдзяржуніверсітэта, але і для ўсёй айчыннай сістэмы адукацыі стала падзея, якая адбылася на факультэце журналістыкі БДУ. Студэнтам яго завочнага аддзялення стаў Мікалай Наско 1922 года нараджэння. Журналісцкую адукацыю ён атрымае ва ўзросце 82 гадоў.

У ЦЭНТРЫ Брэста сярод белага дня апаганены помнік вязням брэсцкага гета, пад якім ляжаць астанкі пяці тысяч расстраляных фашыстамі яўрэяў.

ПАМЯЦЬ аб удзельніках паўстання сялян пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага ўвекавечылі гарадскія ўлады Гродна. Імёны народных герояў прысвоены некальнім вуліцам у мікрараёне індывідуальнай забудовы Зарыца. А ў другім мікраёне, што ў прыгараднай вёсцы Баранавічы, з'явіліся вуліцы, названыя імёнамі ўдзельнікаў вызваленчага паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі.

У МІНСКУ затрыманы дырэктар аднаго з таварыстаў з абмежаванай адказнасцю, які разам з расійскім грамадзянінам выкраў жыхара Раўбічаў і, прымяняючы фізічнае насілле, вымагаў у яго 80 тысяч амерыканскіх долараў.

*ВЯСКОВАЯ СЯДЗІБА*

# КОЖНЫ ШЧАСЛІВЫ ПА-СВОЙМУ

Звычайная вясковая сядзіба. Ёсць усё, каб жыць нармальна. Пабудовы, праўда, не новыя, але служаць гаспадару спраўна. Хата пад шыферным дахам. Пад паветкай, каля сцяны хлява, акуратна складзены бярозавыя дровы. Склеп. Садок. Некалькі вулляў.

Двор, нібы дыванам, укрыты высокай сакавітай травой. А пасярод — вогнішча. Любіць Расціслаў Фёдаравіч пасядзець каля яго надвячоркам. У чыгунку булькае: варыцца бульба. Гаспадар глядзіць на агонь — крыніцу жыцця на зямлі — ды ўспамінае тое-сёе са свайго жыцця. А яно ў Расціслава Ушкевіча доўгае і цікавае. Цяпер жа яно незвычайнае хаця б тым, што жыве чалавек







адзін, адзін на ўсю вёсачку з васьмі дамоў, да якіх з усіх бакоў падступае лес.

Тут Расціслаў Фёдаравіч нарадзіўся. Тут пражыў усе гады, толькі ў арміі давялося праслужыць чатыры з іх. Быў сігнальшчыкам на крэйсеры "Жданаў". З Таліна хадзілі ў розныя краіны. Найбольш запомнілася Сірыя.

— Для нас дзіўна было, — згадвае ён, — што сонца вісіць проста над галавой. Ды так пячэ ў цемя, што хоць плач.

У горадзе Латакія, калі пайшлі прагуляцца, запрасіў у госці дырэктар магазіна. Вядома, уласнага. Добра пачаставаў. Маракі звярнулі ўвагу на жанчын, якія выглядвалі з вокнаў ды ўсміхаліся. Аказалася, што гэта жонкі (аж сем!) уладальніка магазіна.

Давялося пабываць і ў Югаславіі. Прыгожая, маляўнічая краіна, ветлівыя людзі пакінулі прыемнае ўражанне.

Вярнуўшыся з флоцкай службы, прысвяціў сябе лесу. Спачатку працаваў леснікам. Абход — 670 гектараў — ляжаў побач з хатай. З дзіцячых гадоў кожная сцежка была знаёмая. Да драбніц ведаў звычкі жывёл. Ляснічы Азёрскага лясніцтва Леанід Ляткоўскі прыкмеціў стараннага лесніка, прызначыў яго аб'ездчыкам. Уладанні Расціслава Фёдаравіча павялічыліся. Пад яго кіраўніцтвам працавалі дзесяць леснікоў, амаль усе з яго вёскі Острава, усе Ушкевічы — Віктар, Сяргей, Уладзімір...

Практыка ў Р. Ушкевіча была багатая. Але ён адчуваў патрэбу ў тэарэтычных ведах, таму паступіў у Полацкі лясны тэхнікум, скончыў яго завочна. Калі рэарганізавалі Азёрскае лясніцтва, яго ўладанні аказаліся ў Скідзельскім. Працаваў да пенсіі тэхнікам-лесаводам, майстрам лесу.

Лесам ён жыў, з лесу і жыве. З ім звязана шмат падзей — і прыемных, і горкіх.

Не выходзіць з памяці жнівень 1943 года. Тады гітлераўцы спалілі вёскі Сіні Камень, Шкленск, Дземшы. Апошняя — невялікая і бліжэйшая да Острава вёсачка. Наляцелі карнікі і ў яе.

— Усіх людзей, — згадваў з тугой у вачах Р. Ушкевіч, — сагналі вунь на тую ўскраіну. Паставілі нас, акружылі. Было страшна. Але бяда мінула. Нам загадалі сабраць прадукты, немцы забралі іх і пайшлі. А ў тых вёсках усіх пабілі, спалілі хаты. Жудасна.

Пра многае расказваў мне Расціслаў Фёдаравіч. У нас аказаліся агульныя знаёмыя. Калі я спытаў пра Міхася Васілька, ажывіўся:

— А як жа, я добра яго ведаў. Жыў у Баброўні, за два кіламетры ад нас. Нярэдка заходзіў сюды. І так, і на паляванне, у нас жа тут дзічыны было — уга колькі. Аднойчы шапку згубіў, так і не знайшлі. Вершы свае чытаў. Я і цяпер помню "Як я пана перанёс". Вось толькі не спытаў, дзе ён таго паліцыянта праз раку пераносіў. А смешна напісаў.

**— Во, нясі, — крычыць панок, —**
**На той бераг, хаме! —**
**Ботам штурхае пад бок,**
**Лаецца па маме.**
**... Гэткай штукі важны пан**
**Не чакаў ад роду:**
**Я прысеў, а паліцман —**
**Шабултых у воду.**

Згадаў Расціслаў Фёдаравіч і прыгоды, што здараліся на паляванні. Успомніў бацьку, які таксама быў леснікам. Ён працаваў ім да вайны, на гэтую пасаду вярнуўся і пасля фронту. Памёр у 1959.

Вось толькі пра свае лясныя справы не быў ахвочы гаварыць. Пра іх сказаў дырэктар Гродзенскага лясгаса Тадэвуш Чарнецкі, які ў свой час узначальваў Скідзельскае лясніцтва.

— Расціслаў Фёдаравіч быў адным з лепшых у лясніцтве. Своечасова, якасна выконваў работы. І лес сцярог ад браканьераў. Пад яго кіраўніцтвам пасаджана прыкладна 750 гектараў лесу. Ад Стральцоў да Міранаў.

Пасаджаны ім лес вырас. Яму, старэйшаму, ужо гадоў па трыццаць-сорак. Можна і грыбы, і ягады збіраць. І так прыемна пахадзіць, палюбавацца. Свой лес Расціслаў Фёдаравіч бачыць кожны дзень, не выходзячы з падворка. А то возьме ды пойдзе паблукаць сярод смалістых хвоек, падыхаць ядраным паветрам, сабраць крамяных баравікоў.

І лёгка робіцца старому ад сустрэчы са сваімі гадаванцамі — стройнымі соснамі, беластволымі бярозамі. З імі ён маладзее душой.

Пакінулі людзі Острава, абязлюдзела лясная вёсачка. Хто памёр, хто паехаў у гарады — Гродна, Скідзель, Мінск. А Расціслаў Фёдаравіч Ушкевіч жыве ў адным з васьмі дамоў.

— Мне і тут добра, — усміхаецца ён. — Што можа быць даражэй за родны кут?

А мне згадаўся верш Янкі Купалы, радкі з яго:

**Я тут бачу свой край,**
**Поле, рэчку і бор,**
**Сваю матку-зямлю Беларусь.**

Кожны шчаслівы па-свойму.

**Мікола ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

**НА ЗДЫМКАХ: Расціслаў УШКЕВІЧ каля свайго дому.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**



**Мазыр сёння.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.**

# КРЫНІЦА ПАСТУПЛЕННЯ ВАЛЮТНЫХ СРОДКАЎ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

перыядам зацішша, даходы ад рэалізацыі турысцкіх паслуг склалі каля 2 трыльёнаў беларускіх рублёў, балансавы прыбытак прадпрыемстваў у сферы турызму склаў 26 мільярдаў беларускіх рублёў, рэнтабельнасць продажаў — больш за 13 працэнтаў. Акрамя таго, турызм стварыў у рэспубліцы больш 7 тысяч новых рабочых месцаў. Такім чынам, можна сказаць, што турызм становіцца для краіны крыніцай паступлення валютных сродкаў як у бюджэт, так і ў пазабюджэтную сферу.

Асобая ўвага апошнім часам удзяляецца развіццю сумесных турысцкіх праграм у рамках саюза Беларусі і Расіі. Распрацоўваюцца тэматычныя маршруты, адзін з іх "Беларускі экватар" ахоплівае зону трансеўрапейскага камунікацыйнага калідора, па якім рухаюцца асноўныя транзітныя патокі не толькі грузаў, але і падарожнікаў. Таму развіццё сервісу ў гэтай зоне можна назваць стратэгічнай задачай у галіне развіцця нацыянальнага турызму. Акрамя таго, актыўна развіваюцца кантакты з краінамі, дзе турыстычны бізнес знаходзіцца на найбольш высокім узроўні, і з тымі краінамі, куды накіроўваюцца найбольшыя патокі нашых грамадзян. Беларусь падтрымлівае сувязі з Сусветнай турыстычнай арганізацыяй, членам якой Беларусь пакуль не з'яўляецца.

Штогод у Беларусі праводзіцца дзве выставы-кірмашы, куды прыязджае каля 20 краін і прысутнічае да 120 удзельнікаў.

Па словах намесніка міністра спорту і турызму Міхаіла Шаршавіцкага, дзяржаўныя органы кіравання свае асноўныя намаганні сканцэнтравалі на развіцці інфраструктуры турызму ў Беларусі. Гэта расшырэнне сеткі гасцініц і развіццё сферы абслугоўвання, павышэнне ўзроўню айчыннага грамадскага харчавання, каб яно задавальняла патрэбы гасцей і адпавядала міжнародным стандартам, забеспячэнне якаснага транспартнага абслугоўвання і садзейнічанне развіццю вытворчасці сувеніраў. Аднак заўважым, што традыцыйна ва ўсім свеце інфраструктура турызму — кафэ, рэстараны, гасцініцы, сувенірныя вытворчасці — заснавана на дзейнасці прыватнага сектара, і менавіта гэта абумоўлівае поспех усяго бізнесу. Малы і сярэдні бізнес складаюць значную долю ў сферы турыстычнага сектара эканомікі, і сёння больш за 650 фірм атрымалі ліцэнзію Міністэрства спорту і турызму на права займацца турыстычнай дзейнасцю. Пры гэтым функцыі дзяржаўнага і прыватнага сектараў у сферы турызму размеркаваліся наступным чынам: дзяржаўны сектар у значнай ступені зарыентаваны на развіццё ўнутранага турызму і ў меншай ступені — на выязны, прыватны сектар сканцэнтраваў свае намаганні на найбольш даходным, выязным турызме.

Трэба заўважыць, што сёння рынак выязнога турызму ў Беларусі ўжо блізкі да свайго насычэння, і наступае перыяд, калі адзіным шляхам развіцця для турысцкай галіны стане развіццё рынку ўязнога турызму. А гэта непазбежна выклікае неабходнасць вырашэння вялікай колькасці праблем, звязаных з развіццём гасцінічнага бізнесу, транспарту, грамадскага харчавання і гэтак далей. Аб колькасці і маштабе гэтых праблем можна меркаваць хаця б па тым, што да гэтага часу адпачыць за мяжой каштуе значна танней, чым у сябе на Чорным моры. Турыстычны бізнес краін СНД і, у прыватнасці, Беларусі да гэтага часу не гатовы да канкурэнцыі з вопытнымі заходнімі фірмамі, якія могуць імгненна арыентавацца ў новай сітуацыі. Сёння праезд грамадзян па СНД значна даражэйшы, чым правоз турыстаў у многія замежныя краіны.

— Я атрымліваю ліцэнзію на ўязны турызм, але, будучы знаёмым з заходнімі стандартамі, я да гэтага часу не ведаю, што мне прапанаваць сваім партнёрам, — гаворыць генеральны дырэктар ААА АМТ "СМОК" Рафаэль Мусаеў. — Так, можна правезці іх па вёсках і паказаць помнікі архітэктуры, якія захаваліся, але да гэтага часу ў Беларусі няма ніводнага рэстарана нацыянальнай кухні. Акрамя таго, наўрад ці сёння нехта рызыкне гарантаваць гасцям Беларусі дастойны сервіс.

Варта заўважыць, што ў краіне яшчэ не ўведзены міжнародна адаптаваныя стандарты ў сферы абслугоўвання, на якіх ва ўсім свеце базіруюцца тарыфы, а значыць, і якасць абслугоўвання. Акрамя таго, якасць турысцкага абслугоўвання вызначаецца не толькі самімі экскурсіямі, але і арганізацыяй харчавання, гасцінічнай гаспадаркі, транспартных паслуг, словам, усіх галін, якія сёння перажываюць сур'ёзны крызіс. Без інвестыцый у гэтую сферу выйсці на ўзровень міжнародных стандартаў практычна немагчыма. Міністэрствам спорту і турызму прапанавана выйсце з сітуацыі: "Для таго каб вырашаць праблемы ў сферы турызму, неабходны грошы, буйны турыстычны капітал, — гаворыць намеснік міністра спорту і турызму Міхаіл Шаршавіцкі. — Арганізацыйнай формай тут, на нашу думку, павінен быць нацыянальны турыстычны канцэрн "Белінтурыст", у склад якога будуць прыцягвацца новыя члены, у тым ліку недзяржаўнай формы ўласнасці, з тым каб ствараць на яго базе буйную холдзінгавую кампанію. Мы лічым, што прыйшоў час аб'яднаць інтарэсы дзяржаўнага і прыватнага сектара з мэтай развіцця ўнутранай інфраструктуры і матэрыяльнай базы турызму. Патрэбна толькі распрацоўка канкрэтных арганізацыйных форм супрацоўніцтва. Мы плануем пераход на новы парадак ліцэнзавання, які многае спрашчае і адначасова адлюстроўвае міжнародна прызнаную практыку кіравання турыстычнай галіной: гэта падзел на тураператараў і турагентаў. У рэспубліцы ўжо сфарміраваўся шэраг буйных турысцкіх кампаній, якія па якасці работы цалкам адпавядаюць назве "тураператары". Іншымі словамі, гэта фірмы, якія маюць свой нацыянальны турысцкі прадукт".

Дарэчы, у бліжэйшы час заканчваецца тэрмін ліцэнзій у турфірм, якія атрымалі іх у 1996 годзе. У сувязі з гэтым Міхаіл Шаршавіцкі заўважыў, што работа над новым парадкам ліцэнзавання ўжо практычна скончана, але сёння дзейнічае тое Палажэнне, якое зацверджана папярэдняй пастановай Савета Міністраў. Гэта значыць, што Міністэрства спорту і турызму будзе працягваць тэрміны дзеяння ліцэнзій прыкладна на 4—6 месяцаў, каб усе фірмы змаглі закончыць турысцкі сезон. Для аблягчэння пераходу на новы парадак ліцэнзавання гэты працэс будзе ажыццёўлены на працягу двух гадоў. Пакуль жа, па словах Міхаіла Шаршавіцкага, "у новым Палажэнні аб ліцэнзаванні запісаны пункт аб тым, што "ліцэнзіі, выдадзеныя да 1 верасня 1998 года, сапраўдныя на той перыяд, на які яны выдадзены". Такім чынам, усе выдадзеныя ліцэнзіі будуць дзейнічаць".

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

## НАМ ПІШУЦЬ

# МАЛЫ ЮБІЛЕЙ ТАВАРЫСТВА «УЗДЫМ»

**Беларускаму таварыству "Уздым" у гэтым годзе спаўняецца 5 гадоў з дня рэгістрацыі таварыства ў Міністэрстве юстыцыі Латвійскай Рэспублікі. Хай і невялікая дата, але значная. Менавіта з гэтага часу беларусы, якія з даўніх часоў жывуць у Даўгаўпілсе, сталі больш адчуваць у сабе нацыянальныя карані, цікавіцца дзейнасцю грамадства, многія вырашылі вучыць сваіх дзяцей роднай беларускай мове, знаёміць іх з народнымі традыцыямі Беларусі. Беларускім таварыствам Даўгаўпілса зроблена нямала за гэтыя гады, і адзін з самых значных поспехаў "Уздыму" — яго прызнанне на міжнародным узроўні. Сведчаць аб гэтым і запрашэнні старшыні беларускага таварыства Станіславу Валодзьку прыняць удзел у рабоце двух буйных мерапрыемстваў — у Польшчы ў трэцяй міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі "Культура і адукацыя беларускага замежжа" і ў Беларусі — у міжнародным фестывалі ў Віцебску "Славянскі базар". Сваімі ўражаннямі і думкамі ў сувязі з гэтымі падзеямі і дзеліцца С. ВАЛОДЗЬКА, які ўзначальвае Беларускае таварыства "Уздым".**

— На міжнароднай канферэнцыі, арганізаванай у Беластоку, больш за ўсё мяне парадавала сур'ёзная ўвага польскіх уладаў да праблем беларускай дыяспары ў гэтай краіне. Да ўдзельнікаў канферэнцыі з прывітальным словам, абяцаннем і надалей аказваць падтрымку польскім беларусам звярнулася міністр культуры Рэспублікі Польшча пані Іаанна Внук-Нозарова.

У адзін з дзён удзельнікі канферэнцыі былі ў паездцы па беларускіх мясцінах Беласточчыны. Тут у шэрагу школ выкладаецца беларуская мова, працуе Беларускі ліцэй. Дзейнічае вялікі па памерах і арыгінальны па архітэктуры Беларускі музей, будаўніцтва якога фінансавалі Польшча, Беларусь, а адна трэць — ахвяраванні беларусаў усяго свету. Дырэктар музея расказваў, што ў хуткім часе гэта будзе музей беларусаў усяго свету.

На сродкі польскай дзяржавы выдаюцца на беларускай мове аб'ёмная штотыднёвая газета "Ніва" і "Часопіс". А ў Беластоцкім універсітэце з гэтага года пачала работу кафедра беларускай культуры.

*— А якія ўражанні ў вас пакінула другая паездка — на фестываль "Славянскі базар"?*

— Госцем "Славянскага базара" я быў ужо трэці год запар. Мне спадабаліся ўсе канцэртныя выступленні, якія бачыў. Асабліва крануў сэрца канцэрт беларускіх артыстаў у дзень, прысвечаны Беларусі. Уражлівым быў і дзень святкавання Віцебскам сваёй 1024 гадавіны, запомніўся ён яшчэ ўрачыстым прыёмам у мэрыі.

*— У самы разгар "Славянскага базара" ў Віцебску было падпісана пагадненне аб пабрацімстве між гарадамі Даўгаўпілсам і Віцебскам...*

— Мне прыемна, што наша беларускае таварыства мае да гэтай падзеі непасрэднае дачыненне. Яшчэ ў мінулым годзе, калі праходзіў "Славянскі базар", мэр Віцебска спадар Пелагейка запрасіў дэлегацыі Рэзэкне і Даўгаўпілса на сяброўскую размову ў гарвыканком. На гэтай сустрэчы мэры гарадоў Рэзэкне і Віцебска выказалі надзею на ўмацаванне кантактаў між сваімі гарадамі. Выступаючы тады, я прапанаваў, каб падобныя сустрэчы адбыліся і з мэрам Даўгаўпілса Аляксеем Відаўскім. І калі восенню мінулага года мы праводзілі ў горадзе Дні беларускай культуры, па запрашэнні на наша свята прыехаў спадар Пелагейка, і адбылася сустрэча ў Даўгаўпілсе мэраў двух гарадоў. Гэта адыграла немалую ролю на шляху да падпісання цяперашняга пагаднення аб гарадах-пабрацімах. Таварыства "Уздым" спадзяецца на вырашэнне важнейшай для нас задачы — стварэння Цэнтра беларускай культуры ў Даўгаўпілсе. Асабліва зараз, калі зноў паўстала праблема з памяшканнем. Справа ў тым, што будынак, дзе мела сабе прытулак наша таварыства, "дзякуючы" кіраўніцтву швейнай фабрыкі, выкупіў Даўгаўпілскі алімпійскі цэнтр. Гардума выдзяляе нам пакой у Палацы культуры і спорту ў некалькі разоў меншы і ўдалечыні ад цэнтра, што вельмі нязручна. Як дадатковы варыянт дасягнута дамоўленасць з гарадскімі ўладамі, што Беларуская нядзельная школа будзе займацца ў адным з класаў сярэдняй школы № 3 і тут жа будуць праходзіць рэпетыцыі нашага ансамбля. Таму наша таварыства спадзяецца, што зараз, калі Даўгаўпілс і Віцебск сталі пабрацімамі, мы адчуем падтрымку з боку ўладаў двух гэтых гарадоў.

*— Практычна ўсе падзеі, звязаныя з вашым таварыствам, знаходзілі адлюстраванне на старонках газеты "Динабург". Скажыце, якія планы ў вас у сувязі з пяцігоддзем "Уздыму"?*

— Абавязкова правядзём святкаванне Дзён беларускай культуры ў горадзе. Запросім беларускія творчыя калектывы з бліжэйшых гарадоў — Браслава, Рыгі, Вісагінаса, будуць госці з Беларусі і Польшчы. Па шчаслівым супадзенні ў гэты ж час, 26 верасня, у Даўгаўпілсе пройдуць гастролі славутага тэатра імя Янкі Купалы з Мінска.

**Размаўляла Т. ЗАХАРЧУК.**
г. Даўгаўпілс.

# ПАДЗЯКА ЗА ГАЗЕТУ

Для беларусаў, што жывуць за рубяжом Радзімы, вельмі важным элементам іх духоўнага жыцця з'яўляецца праўдзівая і рознабаковая інфармацыя аб жыцці Беларусі, яе сённяшнім дні і старонках шматвяковай гісторыі, культуры. Такая інфармацыя дазваляе захаваць у тутэйшых беларусаў іх нацыянальную свядомасць, затармазіць працэс асіміляцыі, захаваць мову, звычаі, любоў і прывязанасць да любімай маці-Беларусі.

Дзякуючы стараннем Беларускага таварыства "Радзіма", мы ўжо многа гадоў атрымліваем бясплатна для членаў абшчыны 6 экземпляраў і для беларускай бібліятэкі 2 экземпляры газеты "Голас Радзімы". Падпіска на газету ў Малдове не праводзіцца. За многія гады мы пераканаліся, што гэта штотыднёвая газета дае неабходную інфармацыю аб Радзіме.

На яе старонках друкуюцца цікавыя матэрыялы аб бягучым жыцці Беларусі, часта малавядомыя даныя з гісторыі, усебаковая інфармацыя аб культурных і грамадска-палітычных падзеях. Такім чынам, на сённяшні дзень газета "Голас Радзімы" для беларусаў зарубежжа з'яўляецца па-сапраўднаму голасам Радзімы.

Мы ўдзячныя за гэта супрацоўнікам рэдакцыі газеты, яе заснавальнікам і хацелі б, каб і надалей газета захоўвала сённяшні твар і змест.

**Уладзімір ДЗЯРЖЫЦКІ,**
**старшыня Беларускай абшчыны ў Рэспубліцы Малдова.**
г. Кішынёў.

# ПАДАРОЖЖА ПА ВЯЛЕЙШЧЫНЕ

— Праўду, дзядзька, кажаш, — адказвае гарманісты. — Якая з гарэлкі карысьць? Ды каб жа хоць "марнаполька", а то дэнатурка, якую ўсюды цяперка п'юць.

— Ці "марнаполька", ці "дэнатурка" — адна паскуда, — адзываецца адзін з хлапцоў. — Гэй, хлопцы, давайце ад сённяшняга кінема ўжываць гэтую атруту! — заклікае хлапцоў гарманісты.

Адвітваюся са сваймі новымі прыяцелямі і йду далей. Углыбіўшыся ў свае думкі, ня ўбачыў, як прайшоў дваццаць вёрст. Сонца ўжо нізка. Прыдзецца недзе пераначаваць. Але дзе, ня ў гэтым жа панскім двары, да якога падхаджу. Недалёка ўжо й панскі двор. Відаць стары сад і прыгожы палац. Оазіс, — думаю сабе. — Оазісы "польскае культуры й традыцыяў" — як любяць часта называць свае дворы, а нават й дворкі тутэйшыя абшарнікі і абшарнічкі. Лепей абыйсьці іх. Тамака я буду заўсёды чужым і незразумелым. Нашыя дарогі разыйшліся і ніколі ня злучацца. І шкадаваць ня трэба. І, прыбаўляючы шагу, мінаю прыгожы палац. Прайшоўшы вёрст з пару, бачу ўправа ад дарогі нейкія будынкі. Вось дзе пераначую, — усьцешыўся я. Мабыць, нейкі панскі лясьнік жывець, а з лясьнікамі, дый да таго старымі, люблю пагаварыць. Шмат цікавых рэчаў можна ад іх даведацца. Падхаджу да будынкаў і адразу разумею сваю памылку. Не, тутака не лясьнік жывець, бо не такія ў панскіх лясьнікоў будынкі. Ну, але трэ пераканацца. Пачынаю стукацьу дзьверы. Нейкі час ніхто не адзываецца. Урэшце нехта адчыняе дзьверы й са злосьцю пытаецца: "A kto do licha tu puka?"[1]. Ну, думаю, абмінуў оазу "тутэйшага" пана, а прынясло мяне да ўзброенага польскага kulturtregera. Бадай ці ўдасца мне ў яго пераначаваць. Але папрабую. І выдабываючы са свайго горла што больш мяккіх зыкаў — адказваю: "Падарожны й хацеў бы пераначаваць". — A dokumenta posiadasz?[2] — пытаецца нехта грозна ў пацёмку. — А як жа, хто ж можа прасіцца без дакументаў, — адказваю. Мігам прабягаець у маей галаве думка плюнуць і йсьці далей, але астанаўліваюся і чакаю, пакуль не загаворыць са мной гаспадар гэтае марнае хаціны. — Chodzcie no![3] — і асьвячае мне дарогу ў хату серчыкам. Іду за ім. Ужо пры лямпе разглядаю пустыя куты хаты. Лава, крывы стол і два крывыя крэслы. Ложка заваленае нейкімі лахманамі. Варыстая печ. Невялічкі куфар. На сьценцы карабінка вайсковая. Абраз — і ўсё. Няпрошаны саджуся на лаву. Гаспадар доўга ўглядаецца на мяне. Ягоныя цёмныя й пранырлівыя вочы наскрозь мяне свідруюць. Але не паддаюся, вытрымліваю сталёвы бляск яго вачэй.

[1] А хто, ліха яго, тут стукаецца?
[2] А дакументы маеш?
[3] Ну, заходзьце.

— Skad idziecie, i dokad?[1] — пытаецца мяне хрыпатым голасам. Адказваю, што стуль й туды. — Napewno kacap, bo rozmawiacie po-rusku[2]. — Не, — адказваю. — Не кацап, а беларус й гавару па-беларуску. — To wszystkojedno, ci pobiatorusku, ci po-rusku[3], — заканчвае цьвёрда гаспадар. Наступаюць доўгія й невынасіма прыкрыя моўчкі. Пачынаю ў душы сябе лаяць, што гэтак неразважліва прыпёрся да гэтага дабрадзея. І што маю цяпер рабіць? Ісьці нельга, бо на двары цямната, хоць вока выкалі, а аставацца тутка проста дурасьць.

— Nie wiem, co wy za jeden. Wsrod was, kacapow, wiecej drani niz porzadnych, ale sa oczewiscie i wyjatki. Moja kobieta, chociaz katoliczka, ale pochodzi rowniez z kacapow. Ale baba niczego"[4] — закончыў гаспадар. Спачатку хацелася мне, не ўглядаючыся ні на вошта, трэснуць яму па галаве паламаным крэслам, але, як пачаў гаварыць аб сваёй "бабе", апусьціліся ў мяне рукі і крыху павясялеў. Хоць "кацапка", але наша, — падумаў.

— А дзе ж панская жонка? — пытаюся.

— Zaraz nadejdzie. Poszla do rodzicow[5], — адказвае. І праўда, хутка ўвайшла ў хату маладая й прыгожая жанчына. Убачыўшы мяне, прыветліва кіўнула галавой і запыталася ў мужа, ці вячэраў.

— A jaki pies pozostawił mi wieczerza. Dzieki ci, głodny od rana[6], — буркнуў са злосьцю.

Жанчына жыва заварушылася па хаце, распаліла печ й пачала ладзіць вячэру. Муж моўчкі сядзеў на лаве і з падылба на яе паглядаў. У гэтага ацпана мо й добрая натура, але галодны, ну дык й, ведама, злосны. Пачынаю загарварваць аб тым, аб сім з маладухаю. Адказвае й баязліва спаглядае на мужыка. Калі вячэра паявілася на стале — гаспадар крыху павясялеў. Прыгарнуўшы да сябе міску з салам, еў з такім смакам, аж за вушамі трашчэла. Гаспадыня стаяла каля стала, апусьціўшы безрадна рукі. Па яе вачах бачыў, што яна ад душы хацела мяне запрасіць да стала й пачаставаць, але ня сьмела. У міг зразумеў я трагэдыю яе жыцьця і ў душы пачаў шкадаваць. Дый ці адна яна толькі? За блїскучымі гузікамі й мундзірамі паляцелі нашыя красулі, каб пасьля горка плакаці. Пачалося з "панскай" й "дэлікатнай" мовы й цукеркаў, а кончыцца Бог ведае чым.

Відаць, добра пасіліўшыся, вылезшы з-за стала, гаспадар смашна пацягнуўся й пабрыў на двор. Карыстаючы з ягонае адсутнасьці ў хаце, жанчына, падышоўшы да мяне, пачала шэптам мяне перапрашаць, што не пачаставала вячэраю. — Не гневайцеся, дзядзька, не мая ў гэтым віна, — закончыла яна.

— Бог з вамі, я не гневаюся, бо ў міг ўсё зразумеў і ў душы вас пашкадаваў.

— Не паслухала маці й бацькі, а цяпер буду гараваці ўсё жыцьцё. Увесь мой пасаг прапіў й прагайдамачыў, а цяперака катуець й дапаганяе грошы. А скуль іх узяць? Нарабіў пажычак, а цяпер патрабуе, каб бацька за яго плаціў. Далі яму асаду ў 20 дзесяцін, але сам працаваць ня хочыць. Ужо й падушак й пасьцелькі маей няма.

[1] Адкуль ідзяце і куды?
[2] Відаць, кацап, бо размаўляеце па-руску.
[3] Гэта усёроўна — па-руску ці па-беларуску.
[4] Не ведаю, хто вы такі. Сярод вас, кацапаў, больш дрэні, чым паважных, але ёсць, вядома, і выключэнні. Кабета мая, хоць і каталічка, але таксама паходзіць з кацапаў. Але нічога баба.
[5] Зараз падыйдзе, пайшла да бацькоў.
[6] А які пёс пакінуў мне вячэру. Дзякуючы табе, галодны ад раніцы.

Скрыпнулі дзьверы і на парозе з'явіўся гаспадар. — Przynies slomy[1], — скамандаваў ён жонцы. Тая, нядоўга чакаючы, хутка вышла й прынясла вязку саломы, якую раскідала па падлозе.

— Кладзіцеся, дзядзька, аддыхаць. Выбачайце, што няма ў нас лепшага месца.

— Дзякую й за гэта, — адказаў я. — Мне, падарожнаму, й тут будзе добра.

Чуць сьвет падняўся я з саломы і — дай Бог ногі — выйшаў з хаты. Праз гадзіну падхадзіў да вялізарнага будынку быўшае карчмы, якая стаяла на скрыжаваньні двух шляхоў. Прыпомніў сабе гэтую карчму, у якой, праўда, ужо подаўна не раз грэўся й аддыхаў. Хаця й ня меў я цяперка патрэбы захадзіцца ў карчму, але прыпомніўшы, што гаспадар яе, Ёсяль, будзе рад мяне бачыць, зайшоўся. Ёсяль — калісьці прыгожы жыд — пастарэў і згорбіўся.

— Як маешся, грамадзянін Ёсяль? — вітаюся з гаспадаром.

— Дзякую, памаленьку, — адказвае. — А ці ня будзеце А.? Але ж пастарэў, ледзь пазнаць.

— Старэема, прыяцель, віной гэтаму гады й часы.

— Ой, ой, часы, часы, — заківаў галавой карчмар. — Якія гэта часы, якія гады! Вы ведаеце, што я йшчэ не стары чалавек па гадах, а як я выглядаю. Паглядзіце на мяне. Сівы, а на мне толькі й ёсьць, што скура ды косьці. Ой, часы! Помніце майго бацьку, і ці так тутака жылося? Цяперка й гануч нельга скупляваць без патэнту. Усё патэнт й патэнт. На капу яец трэба браць патэнт. Пфэ! — ці калі гэтага патрабавалі? Мой бацька гандляваў лесам, варочаў тысячамі, а за патэнты не плаціў. Бывала прыстануць, ну, дык дасьць пятку — й ёсць "патэнт".

— Няўжо й вам так цяжка? — пытаюся.

— Як цяжка вам, тагды й цяжка і нам — вы ж гэта добра ведаеце. Бацька, трымаючы ў арэндзе гэтую карчму, хадзіў бы бяз ботаў. Бо што карчма магла даць? Галодныя ня былі, але багатымі — ніколі. Толькі гандаль лесам паставіў майго бацьку на ногі. Не адну сотню тысяч пнёў высяк ён у панскіх лясох.

— І за дарма, — дадаю я.

— Але, але — праўду кажыце. Ці ж даўнейшыя паны былі, як цяпер? — цяжка ўздыхнуў Ёсяль. Багатыя паны паўміралі, а жывучыя — пагалелі.

[1] Прынясі саломы.

**Антон ПАДДУБІЧ**

**Працяг.**
**Пачатак у № № 32—35.**

# ЦАМБЛАК І ВІТАЎТ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

на ўсяленскі сабор каталіцкай царквы, пасяджэнні якога пачаліся яшчэ ў 1414 годзе. Сабор праходзіў у Германіі ў горадзе Канстанцы (адсюль і яго назва — Канстанцкі). Ён сумна вядомы ў гісторыі тым, што асудзіў на пакутніцкую смерць (спаленне на кастры) чэшскага гуманіста Яна Гуса (спалены 6 ліпеня 1415 года ў Канстанцы), а таксама яго паплечніка Іераніма Пражскага (спалены 30 мая 1416 года). Калі дэлегацыя на чале з Р. Цамблакам прыбыла ў Канстанц, гэтыя драматычныя падзеі сталіся ўжо гістарычнымі фактамі.

Дэлегацыя праваслаўнага духавенства з ВКЛ, якая прыбыла на заключны этап працы Канстанцкага сабора, павінна была паставіць пытанне аб уніі з рымска-каталіцкай царквой. Р. Цамблак быў пасланы ў Канстанц перш за ўсё па волі Ягайлы, але праводзіў там палітычную лінію Вітаўта. Калі Ягайла быў прыхільнікам уніі з Рымам, зацікаўлены ў хуткім уваздзенні яе ў ВКЛ, дзе праваслаўныя складалі большасць насельніцтва, то Вітаўту, які імкнуўся да сапраўднай незалежнасці ВКЛ, да ператварэння ВКЛ у каралеўства, цалкам незалежнае ад Польшчы, гэтая ідэя была зусім не да густу. Вітаўт дыпламатычна пагадзіўся на паездку дэлегацыі праваслаўнага духавенства з ВКЛ у Канстанц, толькі для выгляду падтрымліваў унію, хоць у сапраўднасці меў іншыя палітычныя мэты. І менавіта Р. Цамблак праводзіў у жыццё на саборы ў Канстанцы гэтую палітычную лінію Вітаўта.

У сваёй прамове да дэлегатаў сабора (зазначым, што Р. Цамблак звяртаўся да іерархаў каталіцкай царквы на царкоўнаславянскай мове) літоўскі мітрапаліт заняў невыразную пазіцыю ў адносінах да пытання далучэння праваслаўнай царквы да каталіцкай. Ён сказаў, што толькі ў выніку свабоднай дыскусіі можна канчаткова вырашыць перавагу веравызнання — праваслаўнага альбо каталіцкага. (Тэкст гэтай прамовы Рыгора Цамблака на Канстанцкім саборы ўпершыню надрукаваны ў 1903 годзе).

Цікавую дэталь, якая тычыцца гэтага моманту, перадае прускі храніст Ліндэнблат. Па яго сведчанні, калі пасля прамовы Р. Цамблака членаў беларускай праваслаўнай дэлегацыі адкрыта запыталі, ці жадаюць яны уніі (саюза) з католікамі, яны адказалі, што не маюць намеру прызнаваць вяршэнства рымскага папы і прыбылі ў Канстанц, толькі падпарадкоўваючыся жаданню сваіх уладароў (як было адзначана вышэй, перш за ўсё Ягайлы).

"Гэтага (г. зн. такога адказу, — **В. Ш.**), — піша вядомы гісторык царквы А. Карташоў, — не магло б быць, калі б уніі шчыра дабіваўся сам Вітаўт". Сучасная балгарская даследчыца духоўнай спадчыны Р. Цамблака А. Іліева-Сіўкава таксама сцвярджае, што на Канстанцкім саборы "мітрапаліт выконваў інструкцыі князя Вітаўта".

У маі 1418 года дэлегацыя на чале з Р. Цамблакам вярнулася з Канстанца ў Вільню. К гэтаму часу пачала мяняцца тактыка Вітаўта ў дасягненні сваіх палітычных мэт. Зразумеўшы, відаць, што аднаму разарваць дынастычную унію з Польшчай немагчыма, Вітаўт уступіў у саюз з заклятым ворагам Ягайлы імператарам Свяшчэннай Рымскай імперыі Сігізмундам І (кіраваў з 1410 па 1437 год). Апошні абяцаў Вітаўту хадайнічаць за яго перад рымскім папай, каб той прыслаў Вітаўту каралеўскую карону. Дзеля гэтага Вітаўту прыйшлося змяніць царкоўную палітыку, памяняць свае адносіны да каталіцызму. Ён пачаў узмацняць падтрымку каталіцкага духавенства. Палепшыліся і адносіны з маскоўскім князем Васілём, які, дарэчы, быў жанаты з дачкою Вітаўта. Вітаўт памірыўся і з мітрапалітам Фоціем.

Усё гэта прывяло да змены стасункаў паміж Рыгорам Цамблакам і Вітаўтам. Адчуўшы, што ён пазбаўляецца падтрымкі вялікага князя, Р. Цамблак добраахвотна пакінуў мітрапаліцкую кафедру і ў хуткім часе памёр, а яго царкоўна-палітычныя планы так і не здзейсніліся. (Звесткі, што быццам бы Р. Цамблак пераехаў у Малдавію і там працягваў сваю царкоўна-палітычную і асветніцкую дзейнасць, трэба прызнаць прыгожай, але малаверагоднай легендай, якая абвяргаецца грунтоўнымі гістарычнымі крыніцамі). Не рэалізаваў галоўнай палітычнай мэты свайго гераічнага жыцця і князь Вітаўт. У хуткім часе ён таксама памёр, перш чым паспеў ўскласці на сваю галаву падораную яму рымскім папай каралеўскую карону.

Тым не менш, саюз гэтых двух вялікіх палітычных мысліцеляў, супрацоўніцтва Вітаўта і Цамблака — драматычная і яркая старонка палітычнага жыцця і высокага ўзроўню палітычнай думкі ВКЛ пачатку XV стагоддзя. Паказальна і тое, што, памяняўшы тактыку ў дасягненні галоўнай палітычнай мэты свайго жыцця, адмовіўшыся ад актыўнай падтрымкі свайго былога саюзніка, Вітаўт не адмовіўся ад сваіх планаў, не аддаў забыццю святых для яго ідэй. Незадоўга да сваёй нечаканай смерці Вітаўт сабраў у Луцку ў 1429 годзе кіраўнікоў уплывовых суседніх дзяржаў, сярод якіх былі імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі Сігізмунд І, маскоўскі князь Васіль (сын Васіля Дзмітрыевіча), польскі кароль Ягайла, дацкі кароль і інш. І абмяркоўваў з імі пытанне аб мерах барацьбы з туркамі, вызвалення паўднёвых славян з-пад іх ярма. Гэта была самая любімая пуцяводная палітычная ідэя жыцця Рыгора Цамблака.

Р. Цамблак карыстаўся вялікай павагай ва ўсходніх славян. Пра гэта сведчыць "Ніканаўскі летапіс". Заўважым, што на старонках сваіх манускрыптаў храністы адгукаліся толькі на самыя значныя падзеі палітычнага альбо грамадскага жыцця, успаміналі пра сапраўды вялікіх гістарычных асоб. Да іх ліку летапісцы залічылі і Рыгора Цамблака. У прыватнасці, пад 1419 годам — годам смерці Р. Цамблака — знаходзіцца наступны запіс: "Тое же зимы (г. зн. 1419 года. — **В. Ш.**) умре Григорий митрополит Цамблак, родом болгарин, книжен зело, изучен книжней мудрости всяцей из детства и много писания, сотворив, остави".

Духоўная спадчына Р. Цамблака налічвае звыш сарака твораў. Яны часта перапісваліся і шырока распаўсюджваліся сярод усходніх славян. У XV і XVI стагоддзях творы Р. Цамблака ўносіліся ў зборнікі царкоўных павучэнняў побач з пропаведзямі Іаана Златавуста.

За час знаходжання ў ВКЛ (у тым ліку і на пасадзе мітрапаліта) Р. Цамблак напісаў каля дзесяці твораў, сярод якіх шэраг царкоўных пропаведзяў ("На ўшэсце", "На прачыстую", "На адсячэнне галавы Іаана Хрысціцеля", "На ўзвіжанне крыжа"), а таксама некалькі "слоў" — "Пахвальнае слова патрыярху Яўхіму", "Надгробнае слова мітрапаліту Кіпрыяну" і іншыя, у якіх знайшлі адлюстраванне актуальныя грамадска-палітычныя праблемы таго часу.

Напрыклад, у "Пахвальным слове патрыярху Яўхіму", прысвечаным свайму духоўнаму настаўніку — балгарскаму патрыярху Яўхіму Тырнаўскаму (1327—1401), які мужна загінуў у турэцкай няволі, аўтар звяртаецца да аналізу нацыянальнай трагедыі балгарскага народа — заваявання Балгарыі туркамі, пазбаўлення балгар дзяржаўнай незалежнасці. (Заўважым, Тырнаўскае царства — радзіма Р. Цамблака — было заваявана туркамі ў канцы XIV стагоддзя (1393), а ў наступным годзе быў зняволены туркамі Яўхім Тырнаўскі). У "Слове" аўтар заклікае да барацьбы з турэцкай няволяй, якая прынесла на балгарскую зямлю велізарнае гора і пакуты. Р. Цамблак абгрунтоўвае ў "Слове" ідэю славянскага адзінства, выказвае надзею на лепшую будучыню славян. "Слова" мела значэнне не толькі для балгар. Яно актывізавала барацьбу ўсходніх славян з татара-мангольскім ярмом.

У "Надгробным слове мітрапаліту Кіпрыяну", прысвечаным памяці свайго дзядзькі, мітрапаліта кіеўскага (1375—1389), а потым маскоўскага (1390—1406) Кіпрыяна (1336—1406), Р. Цамблак аналізуе шматбаковую грамадскую дзейнасць гэтага выдатнага царкоўна-палітычнага дзеяча, выключна высока ацэньвае яго заслугі на ніве асветы, падкрэслівае асабліва ўласцівае яму ўменне "учение в зрячих душах всеяти". Р. Цамблак заклікае сучаснікаў да распаўсюджвання ведаў ("книжной мудрости"), пашырэння асветы.

Безумоўна, пахвальныя словы Яўхіму і Кіпрыяну характарызуюць Р. Цамблака як мысліцеля, якога хвалявалі грамадска-палітычныя падзеі свайго часу. Таму з поўным правам можна сказаць, што на пачатку XV стагоддзя ў творах і ў дзейнасці Р. Цамблака на беларускіх землях знайшлі працяг асветніцкія традыцыі, закладзеныя тут Ефрасінняй Полацкай, Кірылам Тураўскім, Клімінтам Смаляцічам.

Знамянальна і тое, што, калі біскупы пасвячалі Рыгора Цамблака ў сан літоўскага мітрапаліта без благаславення канстанцінопальскага патрыярха, яны спасылаліся на прыклад Клімента Смаляціча. Гэта знайшло адлюстраванне ў акружным пасланні, распаўсюджаным біскупамі, пад якім сталі подпісы полацкага, тураўскага, смаленскага і іншых іерархаў праваслаўнай царквы ВКЛ. Тым самым падкрэслівалася пераемнасць не толькі мясцовых царкоўна-палітычных, але і духоўных сувязяў з папярэднім пакаленнем выдатных усходнеславянскіх асветнікаў.

Таму зусім справядліва вядомы даследчык царкоўнай гісторыі прафесар Маскоўскай духоўнай акадэміі Яўген Галубінскі (1834—1912) у сваіх працах адзначыў, што Р. Цамблак займае прыкметнае месца ў гісторыі ўсходнеславянскай культуры.

**Вячаслаў ШАЛЬКЕВІЧ,**
**доктар філасофскіх навук, прафесар.**

*НЕВЯДОМАЕ ІМЯ*

# «ЯК ЧАЛАВЕК ЁН НЕЯК ДВАІЎСЯ...»

**Даследуючы гісторыю тэатра, уедлівыя, праніклівыя аўтары звычайна абмяжоўваюць сябе падзеямі, што адбываюцца ў зразумелых, прывязаных да геаграфічнай тэрыторыі межах. Яно і зразумела, калі гаварыць выключна пра нацыянальную культуру, пра нацыянальны тэатр. Але ж як быць з той спадчынай, якую праз сцвярджэнне сябе ў іншых культурах пакідаюць нашы суайчыннікі!..**

З дзяцінства, самі не ведаючы, што працуем з кнігай фактычна суайчынніка, мы разпораз звярталіся да "Займальнай астраноміі", іншых навукова-папулярных кніг, аўтарам якіх з'яўляецца ўраджэнец Беластока Якаў Перальман. Што ўжо казаць пра другое веданне: брат Якава Ісідаравіча Восіп, які нарадзіўся 4 лютага 1878 года таксама ў Беластоку, — вядомы ў свой час празаік, журналіст і драматург. Калі б мы былі болей уважлівымі да гісторыі культуры, то сёлета была б і юбілейная — у знак 120-годдзя з дня нараджэння Восіпа Дымава (літаратурны псеўданім беластоцкага драматурга) — згадка. Але ж....

Юны Восіп Перальман пісаць пачаў яшчэ падлеткам. Першая публікацыя — апавяданне ў часопісе "Вокруг света", 41-шы нумар за 1892 год (а толькі ў 1896 годзе юнак скончыў Беластоцкае рэальнае вучылішча). У 1897—1902 вучыцца ў Лясным інстытуце пад Пецярбургам. Дарэчы, не выключана, што падчас вучобы малады чалавек сустракаецца з другім нашым земляком — палачанінам Кайгародавым. Дзмітрый Кайгародаў у 1875—1905 гадах якраз і працаваў у Лясным інстытуце, займаўся літаратурнай, феналагічнай працай.

У доме свайго дзядзькі, філосафа і музыканта Я. Эрліха, Восіп знаёміцца з І. Канеўскім і А. Дабралюбавым. Тут, пэўна, трэба патлумачыць. Аляксандр Міхайлавіч Дабралюбаў — усяго толькі далёкі родзіч літаратурнага крытыка, "храбрага, сумленнага байца за праўду". Знаёмы Дымава — вядомы ў сваім часе паэт, адзін з лідэраў сімвалізму. Магчыма, у пэўнай ступені і пад уплывам Дабралюбава Восіп актыўна ўступае ў літаратурнае жыццё. У 1899—1900 гадах Дымаў — сакратар рэдакцыі часопіса "Тэатр і мастацтва". Рэдактар гэтага выдання А. Купель так адгукаецца пра свайго паплечніка: "Як чалавек ён неяк дваіўся. Вясёлы, мілы, таварскі, добры, тактоўны, а ззаду нешта.. А што — не ведаю..."

Першая спроба Дымава паказаць "чорнае і белае на шэрым фоне" — п'еса "Голас крыві" (Санкт-Пецярбург, 1903). У 1903 годзе спектакль па гэтым творы паставіў Малы тэатр. У 1904-м — Суворынскі тэатр. Праўда, асаблівага поспеху пастаноўка не мела.

У тыя няпростыя для Дымава ў творчым плане гады Восіп збліжаецца з А. Валынскім і Ш. Ашэм, драму якога "Бог помсты" перакладае на рускую мову. Удзельнічае ў літаратурным гуртку "Садружнасць". У 1905 годзе пабачыла свет першая кніга апавяданняў Дымава — "Сонцазварот" (Санкт-Пецярбург). Зборнік выклікаў самыя добрыя водгукі. Адгукнуўся на кнігу другі наш зямляк — паэт Мікалай Мінскі (рэцэнзія ў "Рассвете" 22 мая 1905 года). Асобнае месца ў "Сонцазвароце" займае эцюд (ім завяршаецца зборнік) "На магіле Чэхава".

Увогуле і празаічныя работы Дымава досыць блізкія да тэатра. Што ж да п'есы Восіпа Ісідаравіча, то, па з'едліваму выказванню Зінаіды Гіпіус, піша ён іх у "амаральных тонах". Асноўны канфлікт драматургічных твораў нашага этнічнага, геаграфічна блізкага суродзіча — разрыў традыцыйнай маралі з ускладненай тканінай эмацыянальнага жыцця. У лісце Усеваладу Меерхольду Дымаў піша пра свае памылкі "ўвесці на падмосткі прынцып імпрэсіянізму". Шкада, што падоўгу на сцэне драмы не затрымліваюцца, ідуць, як правіла, адзін сезон. Як прыклад — "Не вяртайцеся", пастаўленая ў Вандроўным тэ-

(Заканчэнне на 7-й стар.).



**У двары Дома-музея Марка Шагала ў Віцебску завяршыліся археалагічныя раскопкі. Знойдзены прадметы быту, шкляны, фарфоравы і фаянсавы посуд, рэшткі фундамента пабудоў канца XVIII—XIX стагоддзяў і іншыя рэчы.**

**НА ЗДЫМКУ:** супрацоўнікі Віцебскага краязнаўчага музея на раскопках.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

## ПАСЛЯ ПЛЕНЭРУ



Адразу дзве мастацкія выставы адкрыліся ў мінскім Палацы мастацтва. Свае работы паказалі члены творчага аб'яднання "Пагоня" Беларускага саюза мастакоў, якія прымалі ўдзел у пленэры "Шляхамі Язэпа Драздовіча", прысвечанага 110-й гадавіне з дня нараджэння мастака. Тут жа працуе выстава твораў мастака Аляксея Пятрухны, які заўчасна пайшоў з жыцця.

НА ЗДЫМКУ: у час адкрыцця выставы.

Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.

# ПА СЛЯДАХ ЯЗЭПА ДРАЗДОВІЧА

Напрыканцы лета, 27 жніўня, у сталічным Палацы мастацтва адбылося адкрыццё адразу дзвюх выстаў жывапісу і графікі. Адна — па выніках пленэраў імя Язэпа Драздовіча 1996 і 1998 гадоў — прымеркавана да 110-х угодкаў мастака. Другая — прысвечана памяці Аляксея Пятрухны. Гэтыя выставы ініцыявала і падрыхтавала творчая суполка "Пагоня", сябры якой спавядаюць нацыянальную ідэю, ідэю Адраджэння і імкнуцца ў сваёй дзейнасці адкрываць гледачу спадчыну тых дзеячаў беларускай культуры, якія не атрымалі належнай ацэнкі свайго таленту пры жыцці.

Язэп Драздовіч — універсальны прадстаўнік беларускай культуры першай паловы XX стагоддзя, які працаваў у розных сферах і пакінуў багатую, цікавую духоўную спадчыну не толькі як мастак, але і як пісьменнік, археолаг, краязнаўца. Яго ны талент шматгранны. Ён стварыў серыю графічных твораў, прысвечаных помнікам дойлідства Беларусі, напісаў унікальныя жывапісныя палотны на касмічную тэму, маляваў для дзяцей адметныя дываны, якія ўпрыгожвалі сціплае сялянскае жытло, займаўся разьбой па дрэву. Багатая спадчына Язэпа Драздовіча была сабрана руплівымі беларускай культуры і ўпершыню паказана ў гэтай жа зале Палаца мастацтва дваццаць гадоў таму на выставе, прымеркаванай да 90-х угодкаў мастака. З гэтага часу пачынаецца пастаянная праца па ўвекавечанні яго памяці. Ствараюцца рэгіянальныя музеі: у саўгасе "Гарадзец", у вёсцы Германавічы Шаркоўшчынскага раёна, у Падвільскай сярэдняй школе Глыбоцкага раёна. Да стагоддзя з дня нараджэння, у 1988 годзе, арганізуецца яшчэ адна выстава яго ных твораў, устанаўліваецца надмагільны помнік у вёсцы Ліпляні на Глыбоччыне, дзе ён пахаваны (скульптар А. Шатэрнік), часопісы "Мастацтва Беларусі", "Маладосць" друкуюць дзённікі Драздовіча, праводзяцца вечарыны, у перыядычным друку з'яўляюцца шматлікія публікацыі, рэжысёр В. Гайдук стварае дакументальны кінафільм. З 1996 года праводзяцца мастацкія пленэры. Дарэчы, арганізуюць яны грамадскім культурна-асветніцкім цэнтрам імя Язэпа Драздовіча і творчай суполкай "Пагоня". Мяркуецца зрабіць гэты пленэр пастаянным і праводзіць яго на радзіме мастака кожны год. На жаль, ініцыятывы грамадскасці ў гэтай высакароднай справе слаба падтрымліваюцца дзяржавай. Пра гэта сведчыць хаця б такі факт. Каля дзесяці гадоў праляжаў у выдавецтве "Беларусь" рукапіс і ўсе неабходныя матэрыялы альбома-манаграфіі "Язэп Драздовіч", які так і не пабачыў свет да гэтага часу.

На выставе шырока прадстаўлена графіка вядомых майстроў — Яўгена Куліка, Міколы Купавы, Сяргея Цімохава, Віктара Сташчанюка, акварэлі Міколы Аўчыннікава, жывапіс Аляксея і Ігара Марачкіных, Алега Мацеевіча, Сяргея Рымашэўскага, Уладзіміра Сулкоўскага, Аляксандра Родзіна і іншых удзельнікаў пленэру, усяго каля 75 твораў. Акрамя гэтага на выставе створаны куточак Драздовіча, у якім прыгожа закампанаваны яго ныя працы — маляваныя дываны, жывапісныя творы, разьбяныя рэчы. Гэта своеасаблівая інсталяцыя надае экспазіцыі адметны настрой і арыгінальнасць.

Выстава, прысвечаная памяці Аляксея Пятрухны, — гэта, без перабольшання можна сказаць, унікальная з'ява ў культурным жыцці краіны. Ён пражыў кароткае жыццё. Яго не стала ва ўзросце 45 гадоў. Для творцы гэта самы плённы перыяд. Шкада толькі, што яго талент пры жыцці быў незапатрабаваны. Ён тварыў для сябе і толькі зрэдку паказваў зробленае. Афіцыйная прэса яго як бы не заўважала, і ён з гумарам ставіўся да гэтага. Экспераменты Аляксея Пятрухны ў галіне выяўленчай формы надзвычай сучасныя і арыгінальныя. Экспазіцыя твораў мастака складаецца з прыватных збораў калекцыянера Анатоля Белага і жонкі Аляксея Пятрухны Людмілы Шлег. У ёй налічваецца каля 200 работ, і гэта далёка не ўся спадчына мастака.

Падчас адкрыцця выставы гучала музыка кампазітара Віктара Войцікa, прысвечаная Язэпу Драздовічу, у выкананні інструментальнага ансамбля Мінскага музычнага вучылішча пад кіраўніцтвам Яраслава Валасюка. Пра жыццёвы і творчы шлях Язэпа Драздовіча распавядаў доктар філалагічных навук, пісьменнік і навуковец Арсень Ліс, які першы дакрануўся да асобы вялікага земляка і напісаў кнігу "Вечны вандроўнік". Старшыня культурна-асветніцкага цэнтра імя Язэпа Драздовіча Міхась Райчонак у сваім слове выказаў падзяку тым, хто дапамог матэрыяльна ў арганізацыі згаданых вышэй пленэраў, асабліва Віцебскаму цэнтру праблем кіравання. Выступілі таксама намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў Георгій Лойка, старшыня суполкі "Пагоня" Аляксей Марачкін, мастак Мікола Купава, які вёў рэй, удава Аляксея Пятрухны, вядомы кампазітар Людміла Шлег.

Ірына ЛЯКСЕЕВА.

## ПІСЬМЫ М. ЗАБЭЙДЫ-СУМІЦКАГА ДА МАКСІМА ТАНКА

# «ПРЫНОШУ РАДАСЦЬ ІНШЫМ»

*Прага, 8.9.1972.*

Дарагі Максіме!

Набліжаецца дзень, калі Табе будуць прыносіць віншавальныя тэлеграмы, пісьмы, кветкі... Не кожны дажыве да 60! І не кожнаму ўдаецца столькі добрага зрабіць для Радзімы, колькі зрабіў Ты, дарагі дружа. Прымі ж і ад мяне найлепшыя пажаданні. Здароўя, поспехаў у працы, сапраўднага шчасця Табе і Тваім блізкім! Жывi і працуй доўга на карысць Радзіме і на радасць усім добрым людзям!

Учора тут дырыгаваў Чэшскаю філармоніяй Леапольд Стакоўскі. Яму 90 год! Выходзіць на кастылях. Але што ён робіць з аркестрам і слухачамі!.. Мой канцэрт у Лугачовіцах 31 ліпеня прайшоў надзвычай паспяхова. Спяваў амаль 2 гадзіны без перапынку. 25 песень у 8 мовах.

Адзначыў і 90-годдзе з дня нараджэння Янкі Купалы. Зрабіў вольны пераклад на чэшскую мову яго верша "Ты прыдзі" і заспяваў у арыгінале раманс М. Чуркіна, напісаны на гэты верш.

Слухачоў было больш, чым месц у зале (як калісьці ў зале Снядэцкіх у Вільні). І не толькі ніхто не адыйшоў да канца канцэрту, але яшчэ патрабавалі "біс".

Хай гэты канцэрт будзе Табе, хто любіць нашу песню, маім "падарункам".

Канчаю, бо шкада Твайго часу. Шлю шчырыя прывітанні Табе і Тваім блізкім.

Моцна абдымаю.

Твой **М. Забэйда.**

**P. S.** Ці атрымаў мой ліст ад 24.6.гг.?

*Прага, 28.X.1972.*

"Хай будзе святло"

Дарагі Максіме! Ці ж можна Цябе асуджаць, ведаючы, як Цябе заваальваюць не толькі пісьмамі, але і працай вялікай, — што не адразу адказваеш на пісьмы?! І хоць заўсёды рады Тваім радкам, Тваім добрым словам, сам стараюся пісаць Табе менш. Вельмі засмуціла мяне вестка аб Тваёй хваробе. Веру, што дактары зробяць усё, каб вярнуць Табе здароўе. Ты ж яшчэ малады! Горш са мною. На левай назе, пад каленам, ужо даўжэйшы час расце нейкі гуз. Дактары не ведаюць яшчэ яго "пахаджання". Магчыма, трэба будзе рабіць аперацыю. Апрача таго, у маладосці, калі насіў у вагоны некалькіпудовыя мяшкі, нажыў кілу, якая цяпер пачынае "пагражаць". Але я пакуль што рыхтуюся да выступлення ў лістападзе — месяцы Чэхаславацка-Савецкай дружбы. Хачу да канца свайго жыцця даваць людзям радасць. Сумна, што на Пражскім радыё, у 68 годзе, сцерлі ўсе мае найгранні. А колькі там было працы ўложана! Колькі песень! Шастаковіч, Кабалеўскі, Шапорын, Хачатуран, Туранкоў... А колькі народных (розных народаў), спяваных у арыгінале! Як карова языком злізала...

Плітку пастараюся прыслаць. Чакаю "Хай будзе святло". Нізка ўсім Вам кланяюся, абдымаю і жадаю здароўя, здароўя і здароўя! Спадзяюся, што яшчэ сустрэнемся і заспяваем. Не забывай, дарагі дружа!

Твой **М. Забэйда.**

*Прага, 28.9.73.*

Дарагі Максіме!

Атрымаў Твае мілыя радкі. Пытаешся, ці маю Твой зборнік "Хай будзе святло". Відаць, мой ліст да Цябе не дайшоў, бо 10.1.1973 я Табе пісаў:

"Дарагі Максіме!

Ужо два дні хаджу з Тваімі думкамі, бачу Твае малюнкі-вобразы, абагачаю Тваім творчым, жывым словам родную мову: чытаю Тваю кніжку "Хай будзе святло". Чытаю з вялікім зацікаўленнем і роздумам. Вялікае Табе дзякуй як за Тваю асаблівую, мне блізкую паэзію, так і за дарагі мне надпіс на кніжцы, вельмі прыгожа выдавай: "...Бо без Вас, мае сябры, дружбакі мае, не жыццё на гэтым свеце, валацугу, мне".

**"...Добры кажух са спагады, толькі сцюдзёна ў ім,**

**Добры агонь на чужыне, толькі грызе вочы дым".**

Пазнаеш свае радкі?!

Тут хадзілі чуткі, што Ты збіраўся адведаць Прагу ў снежні м. г., цяпер гавораць, што прыедзеш у студзені, дык, можа, яшчэ пабачымся. Буду вельмі рады. Плíткі з нашымі песнямі для Цябе дастаў, але поштай не пасылаў, бо спадзяваўся, што Ты прыедзеш. І цяпер чакаю.

На Навагоднія святы моцна хварэў. Кожныя паўгадзіны і ўдзень і ўночы мусіў бегаць туды, куды і кароль пяшком ходзіць. Гарачка 39°, пульс — 110—120 і няроўны. Думаў, прыйшоў канец, але, здаецца, яшчэ трохі пажыву. Хоць моцна аслабеў, ужо пачынаю патрохі прыходзіць да нармальнага стану, пачынаю даваць лекцыі спеву. Ходзяць да мяне людзі, якія ўжо аконічылі кансерваторыю і самі даюць лекцыі спеву ў музычных школах.

Можа, калі-небудзь парадуе маіх суайчыннікаў тое, што мае вучні пачынаюць спяваць у канцэртах і нашы песні, якія карыстаюцца поспехам. І сам я атрымаў ад Чэшскага музычнага фонду ўзнагародупрэмію "за сістэматычнае і каштоўнае (мастацкае) выкананне песень сучасных чэшскіх кампазітараў за мінулы сезон 1971—1972 года". Гэта ўжо трынаццатая ўзнагародапрэмія (і, мусіць, апошняя). Калі ўзяць пад увагу, што жыву 73 год, то трэба прызнаць, што з'ява гэта рэдкая і не толькі сярод беларусаў.

Не буду Табе больш пісаць: шкада Твайго часу. Кончу словамі з Твайго верша:

**"...Нат калі я падарвуся —**
**Не спісвайце з уліку,**
**Песня мая далей будзе**
**Шляхі пракладаць**
**Да любові,**
**Дружбы,**
**Міру".**

Шлю Табе, Тваім блізкім і супольным знаёмым самыя лепшыя пажаданні на 1973 год.

Моцна абдымаю.

З любоўю Твой

**М. Забэйда".**

Перапісаў я гэтае пісьмо з чарнавіка, які ў мяне захаваўся прыпадкам, бо хацеў, каб Ты ведаў, што "Хай будзе святло" не толькі чытаў (з удзячнасцю Табе!), але і цяпер, калі агортвае сум, звяртаюся да Твайго зборніка.

Вельмі рады, што часамі слухаеце мае песні. Значыць, не дарма жыў на свеце? Мо калі прыедзеш у Прагу, сустрэнемся, абдымемся, пагаворым. Мая маці казала: "Скрыпучае дзерава доўга скрыпіць". Дык хай будзе "да пабачэння". Чакаю "Полымя" з Тваімі вершамі! Не забывай. Нізкі паклон усім, хто яшчэ памятае. Абдымаю.

Твой **М. Забэйда.**

3.VI.74.

**"...Хутка закончу дарогу сваю праз перавалы, адхоны, абрывы".**

Дарагі Максіме! Ведаючы, як Ты перагружаны, больш пра Цябе думаю, чым пішу. Аднак лічу патрэбным падзякаваць Табе за Твае добрыя словы, за працу прысланую прыслаць лекі і асабліва за твой верш, які мне вельмі спадабаўся.

Лекаў тут маем вельмі многа, і я шмат іх спалькаў і палыкаю, але "даходзіць бензін". Дактары кажуць, што маю зменшаную сардэчную рэзэрву і папоўніць гэту рэзэрву ў маім веку немагчыма. А калі сэрца працуе кепска, тады "на беднага Макара ўсе шышкі валяцца" і на чалавека лезуць розныя хваробы. Часамі трудна ўтрымаць у руцэ кубак чаю. Хаджу толькі памалу і то няпэўным крокам. Атрафіруюцца месцы, якія звязваюць косці... Але яшчэ магу дайсці ў сталоўку без кійка, магу купіць трохі патрэбнае ежы, прыбраць у пакойчыку-працоўні і, галоўнае, магу яшчэ даваць людзям радасць сваімі песнямі... У маі спяваў некалькі разоў з поспехам. "...Такі я паранены ўвесь і... шчаслівы".

Вельмі шкадую, што не пабачыў Нарач і наогул Радзіму, за межамі якой прайшло амаль усё маё жыццё, пачынаючы з першае сусветнае вайны, што выкінула мяне яшчэ малым хлопцам з роднага кутка.

Тут, у Чэхаславакіі, вельмі прыгожыя і добра дагледжаныя дзеці. А я, калі памятаеш, жыву ля Рыгровага парка, дзе дзяцей вельмі шмат. І вось, у вольную хвіліну іду ў парк палюбавацца дзяцьмі, паглядзець у іх чыстыя, нявінныя вочы, адазвацца на іх шчырую ўсмешку, адвесці душу і ад усяго сэрца пажадаць ім поўнага шчасця, каб яны ніколі не пазналі праклятай вайны...

З Радзімай мяне звязваюць добрыя пісьменнікі, творы якіх чытаю ў "Полымі", ды пісьмы суайчыннікаў і сяброў. Часта да мяне звяртаюцца з-за мяжы, каб прыслаў свае пліткі з беларускімі песнямі. Ці маю выпадак іх жаданні? Як Ты думаеш?

У "Полымі", за красавік, з вялікім зацікаўленнем прачытаў артыкул Ніла Гілевіча "Паэтыка беларускіх загадак". Радуюся кожнаму дасягненню на Радзіме.

У нас канчаецца фестываль "Пражская вясна". Шмат першакласных артыстаў з розных краін выступала на фестывалі. Была гэтым разам і народная артыстка Беларусі Святлана Данілюк. Мае вельмі прыгожы голас. Па канцэрце падышоў да мяне нейкі старэйшы пан і запытаўся, ці яна сапраўды народная артыстка Беларусі. Яна ж, кажа, нічагусенькі беларускага не заспявала. Калі б не вашы канцэрты і пліткі, мы і не ведалі б, што братні беларускі народ мае такія прыгожыя песні... На гэта пытанне я нічога не мог адказаць, бо і сам нічога не ведаю. Перасылаю з ёю прывітанні Радзіме.

Між іншым, у Тваёй біяграфіі я чытаў, што на Лукішках (здаецца) Ты спаткаўся з Іванам Малецам. Іван Малец быў маім таварышам, калі я вучыўся ў Маладзечанскай семінарыі. Магчыма, гэта быў ён? Потым я з ім не спаткаўся.

Пара канчаць: спатрабавалася мая сардэчная рэзэрва. Будзь здароў, дарагі дружа. Прывітанні сям'і і супольным знаёмым. Буду чакаць Тваіх вершаў у "Полымі". Моцна Цябе абдымаю.

Твой **М. Забэйда.**

**Працяг.**

**Пачатак у № 33—35.**

"НОВАЯ ЗЯМЛЯ" ДАРАГАЯ КОЖНАМУ БЕЛАРУСУ

# ЖАМЧУЖЫНЫ НАШАЙ ПАЭЗІІ

У адной з вітрын Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа выстаўлены рэдкі экспанат — першае выданне паэмы песняра "Новая зямля". Гэты твор вядомы, блізкі і дарагі кожнаму беларусу яшчэ са школьнай парты. Паэма стала найвыдатнейшым творчым здабыткам беларускай літаратуры.

На трэцім з'ездзе пісьменнікаў Беларусі Пятрусь Броўка гаварыў: "...Як бы хацелася, каб у нас з'явілася нешта падобнае да вядомай паэмы Якуба Коласа "Новая зямля". Прачытаўшы гэты твор, бачыш тагачаснае сялянскае жыццё ва ўсёй яго паўнаце... А вось цяпер... Такога шматграннага паэтычнага твора ў нас няма. Нават найбольш удалыя паэты толькі адным якім-небудзь краем закранаюць жыццё і не паказваюць яго ва ўсёй шматграннасці.

Чаму гэта так? У "Новай зямлі" ў цэнтры стаіць карэнная праблема жыцця беларускага народа — праблема зямлі. Між тым, нашы сучасныя паэты не заўсёды ўмеюць знайсці тыя карэнныя пытанні, якія хвалююць".

І сапраўды, паэма "Новая зямля" з'яўляецца жамчужынай нашай паэзіі, арыгінальным і непаўторным творам пачатку XX стагоддзя.

Паэма была пачата ў сакавіку 1911 года. Спачатку быў напісаны вершаваны расказ "Як дзядзька ездзіў у Вільню і што ён там бачыў". Потым былі напісаны раздзелы аб лесніковай пасадзе, жыхарах і роднай прыродзе — "Раніца ў нядзельку", "Леснікова пасада" і іншыя. Праз некаторы час паэт напісаў раздзелы "На першай гаспадарцы", "Пярэбары", "За сталом". Астатнія 19 раздзелаў напісаў паэт у савецкі час. У 1923 годзе паэма выйшла з друку, асобныя яе раздзелы друкаваліся раней у беларускіх перыядычных выданнях.

Падзеі і здарэнні, апісаныя ў паэме, мелі месца ў жыцці бацькоў Коласа. Прататыпамі большасці герояў паэмы таксама былі рэальныя асобы. Пра гэта гаварыў сам народны паэт, пра гэта сведчаць архіўныя матэрыялы, расказы родных і блізкіх пісьменніка. Прататыпамі галоўных герояў паэмы з'яўляюцца члены сям'і Міцкевічаў. Міхалам, Антосем, Ганнай завуцца галоўныя героі паэмы, за якімі стаяць нявыдуманыя фігуры бацькі Міхала Казіміравіча Міцкевіча, маці Ганны Юр'еўны (дзявочае прозвішча Лёсік), дзядзькі Антона Казіміравіча Міцкевіча, Уладзік, Алесь, Кастусь, Міхаліна, Гэля, Юзік — усе гэтыя вобразы дзяцей напісаны паэтам са сваіх родных бацькоў і сясцёр, а таксама з сябе, сваякоў, знаёмых, аднавяскоўцаў, служачых Акінчыцкага лясніцтва.

Многія іншыя сапраўдныя імёны, прозвішчы і мянушкі пакінуты ў паэме без змен. Захаваны ў паэме назвы вёсак, мястэчак, сёл, хутароў, рэк.

Паэма на працягу 75-гадовага жыцця шмат разоў перавыдавалася. Першае выданне паэмы (як мы пісалі ўжо вышэй) выйшла ў 1923 годзе, другое — ў 1927-м. Трэцяе мелася выйсці ў 1931 годзе. Як відаць з аўтарскай заўвагі, зробленай да аднаго з вершаў, выданне затрымалася на працягу некалькіх год з-за адсутнасці прадмовы і выйшла толькі ў 1934 годзе з прадмовай, напісанай самім Коласам. Чацвёртае выданне было падрыхтавана ў 1941 годзе. "Я атрымў сігнальны экземпляр поўнага паўторнага выдання, — гаварыў Якуб Колас, — але яму не суджана было ўбачыць свет. Перашкодзілі немцы".

У паэме паказана сям'я малазямельнага селяніна Міхала, заўзятага сына зямлі, змушанага жыць у цяжкай атмасферы царскага і панскага самаўладства. Малазямелле штурхала Міхала шукаць тых ці іншых шляхоў, каб выйсці з беднасці і галечы. Ён бачыць гэта збавенне ў прыдбанні ўласнага кавалка зямлі. Пра гэта марыць і яго малодшы брат Антось, які таксама шмат працуе, імкнецца да лепшага жыцця, да волі ад паноў. Ён, як і Міхал, бачыў адзіны выхад з-пад панскай няволі — набыць уласны кавалак зямлі, падтрымліваў Міхала.

Здзяйсненню адных і тых жа задум аддае ўсе свае сілы і жонка Міхала Ганна. Яна працуе з ранку да вечара — поле, агарод, даглядае хатнюю жывёлу, клапоціцца пра дзяцей. У сям'і Ганна з'яўляецца "вартаўніком і спаўняльнікам розных традыцый, звязаных часткова з перажыткамі далёкага мінулага, павер'ямі і паданнямі, што адлюстроўваюць тыя ці іншыя сувязі яе далёкіх і блізкіх прашчураў з земляробчай працай".

Крытыка назвала паэму шэдэўрам у беларускай літаратуры ("класічным творам беларускага пісьменства", яна сведчыць аб поўным развіцці паэтычнага таленту аўтара, у якім, як у фокусе, адбіваецца росквіт здольнасцей беларускай нацыі"). Падкрэслівалася вялікая роля паэмы ў далейшым развіцці нацыянальнай літаратуры.

Аднак было і іншае — твор многае перажыў. У артыкулах Л. Жыцені (Радзевіча), А. Кучара "Новая зямля" ацэньвалася з вульгарна-дагматычных, нігілістычных пазіцый як твор натуралістычны, немастацкі. Архаічны "з ідыёвага боку і па форме", твор прасякнуты "дзікім народніцка-інтылігентным патрыятызмам", ідэалізацыяй хутарской гаспадаркі, ідэямі адасобленасці чалавека. Паэма "Новая зямля", сцвярджаў Жыценя, — "твор не нашых і не будучых часоў". Аўтар глыбока памыляўся, неабгрунтавана бэсціў твор. Час паставіў усё на сваё месца. Твор станоўча ацэнены нашымі вучонымі ў беларускай літаратуры. Знайшоў ён удзячнага чытача і сярод сённяшняй эміграцыі. Бібліяграфічны даведнік Вітаўта і Зоры Кіпеляў "Янка Купала і Якуб Колас на Захадзе", выдадзены Беларускім інстытутам навукі і мастацтва ў Нью-Йорку ў 1985 годзе, сцвярджае: "Мюнхенскае выданне "Новай зямлі" Якуба Коласа паклала пачатак актыўнай папулярызацыі гэтага класічнага шэдэўра беларускай літаратуры на эміграцыі. Асобныя ўрыўкі з гэтай паэмы пачалі рэгулярна ўключацца ў рэпертуар канцэртаў-ушанаванняў коласаўскіх угодкаў і літаратурных вечарын, розных культурных імрэзаў. Характэрна, што прапагандыстамі звычайна тут выступалі беларускія паэты, навукоўцы, святары, былыя настаўнікі і работнікі культурна-асветнага фронту".

Многае зрабіў у папулярызацыі Коласавага твора паэт Уладзімір Клішэвіч, асабліва тады, калі ён разам з Тодарам Лебядою, Масеем Сяднёвым, Кастусём Суднікам савецкімі спецорганамі быў высланы ў Сібір, а пасля на Калыму. Жыццёвая сіла твора, яго мастацкая дасканаласць, стойкасць і мужнасць галоўнага героя паэмы Міхала ў жыццёвых варунках дапамагалі выстаяць і перамагчы, вярнуцца на родную Бацькаўшчыну. Гэта бачна з рэферата Клішэвіча, які ён прачытаў на публічнай акадэміі перад суайчыннікамі ў Лос-Анджэлесе 16 жніўня 1959 года.

Зямля — найкаштоўнейшы скарб, наша багацце, наш карміцель. Так марыў і Міхал — галоўны герой паэмы. Знаходзячыся на панскай службе на пасадзе лесніка, Міхал тым самым адарваўся ад зямлі, не маючы ўласнага кавалка хлеба, сноўдаўся ад цямна да цямна па лесе, цярпеў здзекі ляснічых. Ён увесь час марыў пра ўласны дабрабыт: "купіць зямлю, прыдбаць свой кут, каб з панскіх выпутацца пут". Аднак не суджана было гэтаму збыцца. Так і памёр ён, не пабачыўшы свабоды.

Гэта яшчэ раз кажа пра тое, што адрывацца ад зямлі ніяк нельга. Як нельга мірыцца з тым, што асабліва цяжка даводзіцца нашай зямельцы зараз. Мы бачым, як неабгрунтавана разбураецца, топчацца, шальмуецца родная ніва, церпіць вялікі здзек. Калі раней больш гаварылі аб няўважлівых адносінах да зямлі, яе марнатраўстве, то сёння да самага найвялікшага нашага багацця працягваюць свае прагавітыя рукі не гаспадары, а розныя хціўцы і прайдзісветы. І гэта страшна.

Таму зноў і зноў прыгадваюцца словы народнага паэта з класічнага твора:

**Зямля, зямля... туды, туды, брат,**
**Будуй яе... ты дай ёй выгляд...**
**На новы лад, каб жыць нанова...**

У гэтых радках — найвялікшы сэнс і цеплыня да роднай зямлі, да сваёй Бацькаўшчыны.

**Мікола ЖЫГОЦКІ.**

НАРОДНЫЯ КАМПАЗІТАРЫ



**У Кажан-Гарадку Лунінецкага раёна жывуць два самадзейныя кампазітары — інвалід па зроку Андрэй УРБАНОВІЧ і кіраўнік хору "Палессе" Лунінецкага ПТВ-146 Мікалай ВАЙЦЯХОЎСКІ. На рахунку ў кожнага больш чым па сто песень, якія сталі любімымі ў народзе. Многія з іх выконваюцца на эстрадзе як народныя.**

**Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.**

# «ЯК ЧАЛАВЕК ЁН НЕЯК ДВАІЎСЯ...»

**(Заканчэнне. Пачатак на 5-й стар.).**

атры ў 1906 годзе. А таксама — "Абавязак", пастаўленая ў некалькіх тэатрах у 1907 годзе. Невысокую адзнаку выставіла крытыка і драме "Слухай, Ізраіль!" — адной з яўрэйскіх меладрам, напісаных па слядах пагромаў.

Але з часам упартая праца на тэатральнай ніве прынесла і поспех. У альманаху "Колосья", першая кніга якога выйшла ў Санкт-Пецярбургу ў 1909 годзе, друкуецца п'еса Дымава "Ню. Трагедыя кожнага дня". Годам раней драму даносіць да гледача берлінскі Камерны тэатр М. Рэйнхарта. У галоўнай ролі — А. Маісі. П'еса абышла многія тэатры Еўропы. Што ж асаблівага ў творы? Амаль што банальная меладрама з адзюльтэрам, дзе Дымаў знайшоў мастацкую раўнавагу змены кароткіх сцэн і глыбіні ахопу падзей, гратэскавай бессэнсоўнасці бытавых прыкмет і абагульненасці псіхалагічнага малюнка, блізкага да вельмі асцярожнай сімвалізацыі. Катэ Марджанаў паставіў "Ню..." ў тэатры Нязлобіна "ў лёгкіх карычневых вуалях і шаўках. І ўсё ў гэтай драме было стылізавана... Палемічна, надумана, пазбаўлена жыцця, але для падманутага слыху, у нейкім нечаканым сэнсе досыць прыемна і ласкава" (Дон Амінада).

Дарэчы, калі ўжо згадана імя Катэ Марджанава, то мусіць, да месца будзе і гэткае вось адступленне пра вялікага грузінскага рэжысёра. Катэ Марджанаў (а дакладней — Марджанішвілі), працуючы ў розных гарадах Расійскай імперыі, ставіў на сцэне спектаклі і Яўгена Чырыкава (і па тых п'есах, што вядомы рускі драматург напісаў у Мінску, пухавіцкай Блоні за сем гадоў яго беларускага жыцця). Другая беларуская повязь грузінскага майстра — пастаноўка п'ес Дымава. А яшчэ — удзел, работа ў тэатры Катэ жонкі беларускага пісьменніка Алеся Пальчэўскага Тамары Цулукідзе.

Але ж вернемся да Дымава. Важным этапам у сваім творчым станаўленні Восіп Ісідаравіч лічыў сустрэчу з Рэйнхартам: "Мая жаніцьба, мая дачка, Рэйнхарт..." Троцкі ў свой час заўважыў: "Рэйнхарт у Германіі і Браднас у Скандынавіі — адчынілі Дымаву дзверы да заходняга тэатра і літаратуры". Адкрыўшы ўласныя арыенціры ў мастацтве, Дымаў з таго часу падоўгу жыў у Берліне, Вене. Поспех напаткаў яго другую кнігу апавяданняў "Зямля квітнее".

Часам наведваючыся ў Пецярбург, Восіп Ісідаравіч сустракаўся з сталічнай багемай, завітваў у рэстаран "Вена". Расказваюць, вельмі любіў капіраваць людзей, жартаваць з іх. У рамане Ашэ "Мэры" вобраз белетрыста, парадыста і пераемніка Хомава спісаны якраз з Дымава. У жартах Восіпа і свая ідэалогія была. Вось што напісаў драматург для газеты "Приазовский край": "Хіба ж не прытворства гэта — увесь Пецярбург з яго жыццём, яго шуканнямі, яго тэатрам і яго літаратурай?"

У 1913 годзе амерыканскі тэатральны імпрэсарыо Тамашэўскі запрасіў Дымава ў Амерыку. І ўсё далейшае жыццё (да самай смерці ў лютым 1959 года) Восіп Ісідаравіч правёў у ЗША (з 1926 ён — грамадзянін ЗША). У 1920-я гады Дымаў піша п'есы на дзвюх мовах — рускай і ідыш. Поспехам карыстаюцца "Бронксэкспрэс", "Вялікая жанчына", "Залаты ключ" (у апошняй з іх уздымаецца нацыянальная яўрэйская праблематыка).

У 1926—1928 гадах Дымаў друкуе ў ленінградскай "Красной газете" артыкулы аб амерыканскім тэатры. Апошнія гады жыцця прысвячае рабоце над успамінамі "Што я памятаю", піша ў асноўным на ідыш.

Зараз пра Дымава мала якія звесткі і ў энцыклапедыі знойдзеш. У расійскіх, зразумела, энцыклапедыях. На Беларусі дык і зусім маўчанне. Як, вядома ж, і ў Польшчы, на Беласточчыне.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

СКУЛЬПТАРЫ-РАЗЬБЯРЫ Ў МІКАЛАЕЎШЧЫНЕ



**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

**Дзесяць дзён працавалі майстры, ператвараючы магутныя дубовыя плахі ў скульптурныя кампазіцыі: "Русалку" і "Лесавіка", "Анёла-ахоўніка". На завяршэнне пленэра ўстанавілі на высокім беразе над Нёманам шасціметровы крыж у памяць нядаўна памерлага выдатнага разьбяра Міхаіла Корабава, чые скульптуры ўпрыгожваюць Коласаўскі літаратурны запаведнік.**

**Створаныя на пленэры скульптуры ўстаноўлены на тэрыторыі Дома-інтэрната для ветэранаў вайны і працы ў Мікалаеўшчыне.**

**НА ЗДЫМКАХ: удзельнікі пленэра разьбяры Вячаслаў ПЯТРОВІЧ, Анатоль ЛАВОР, Генадзь МАТУСЕВІЧ; "Лесавік" — работа Генадзя МАТУСЕВІЧА.**

**Тэкст і фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.**



ЁСЦЬ ТАКІ АНСАМБЛЬ

# ТАНЦУЙ, «ЮРАЧКА»!

Сёлета народны ансамбль танца "Юрачка" баранавіцкага гарадскога Дома культуры адзначыў сваё 30-годдзе. За гэты час не адзін раз змяніўся склад яго ўдзельнікаў, ды нязменнай засталіся любоў да танца і жаданне данесці чароўны свет музыкі і пластыкі да гледача.

У ансамблі, большасці ўдзельнікаў якога — навучэнцам, студэнтам, рабочым і культасветработнікам — у адрозненне ад яго самога няма яшчэ і трыццаці, добра памятаюць пра тых людзей, хто стаяў ля вытокаў калектыву і вёў да сённяшняга прызнання. Першым мастацкім кіраўніком "Юрачкі" быў Міхаіл Пузанаў, потым, змяняючы адзін аднаго, ля руля стаялі Зіновій Куліш, Віктар Бабко, Аляксандр Самсонаў. Тамара Колтун аказалася пятым па ліку кіраўніком і першай жанчынай у гэтай слаўнай кагорце арганізатараў энтузіястаў.

У рэпертуары баранавіцкага калектыву — як беларускія народныя танцы, так і танцы народаў свету: рускія, украінскія, малдаўскія, венгерскія, чэшскія, яўрэйскія... І радуе ён сваім іскрамётным майстэрствам не толькі землякоў: артысты-танцоры, у прыватнасці, выязджалі на гастролі ў Расію, Польшчу, Германію, Чэхію, Ірландыю, Фінляндыю. Як прызнанне — узнагароды на шматлікіх рэспубліканскіх і міжнародных фестывалях.



Выступленні ансамбля дапаўняюць мясцовы народны гурт музыкаў "Вандроўны фэст", з якім "Юрачка" супрацоўнічае ўжо 5 гадоў, і салістка, дыпламант фестывалю "Беларусь — мая песня" Ганна Панькова.

— Эх, нам бы знайсці добрага спонсара, — цяжка ўздыхае на развітанне Тамара Колтун.

І яе можна зразумець. Дзяўчатам і хлопцам хочацца як мага часцей выязджаць на гастролі, але дзе ўзяць для гэтага грошы?

Можа, хто дапаможа? Упэўнены: пабачыўшы аднойчы выступленне ансамбля "Юрачка", — не пашкадуе. Ды і іншым, безумоўна, радасць прынясе.

**Анатоль ЗЭКАЎ.**

**НА ЗДЫМКАХ: мастацкі кіраўнік ансамбля "Юрачка" Тамара КОЛТУН; удзельнікі калектыву ў добрым настроі!**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

З ГІСТОРЫІ СЛОНІМА

# ЗАГУЧАЎ ПАЛАНЕЗ АГІНСКАГА

У даваенны час у Слоніме з вартавой пажарнай вежы двойчы ў дзень — у 8 і 20 гадзін гучала мелодыя паланеза Міхала Агінскага "Развітанне з Радзімай". Каб пераканацца ў гэтым, я сустрэўся нядаўна з старажылкай Слоніма Нінай Лукашэйка. Ніна Пятроўна паказала мне цікавую кніжку на польскай мове, дзе я прачытаў, што ў 1897 годзе ў Слоніме было заснавана добраахвотнае пажарнае таварыства, якое мела дзве аўтапомпы, вартавую вежу і адзіны ў горадзе аркестр. Адзін з музыкантаў іграў на трубе паланез Міхала Агінскага. Жанчына выказала жаданне аднавіць у Слоніме гэтую традыцыю.

З такою прапановаю я звярнуўся да сённяшняга начальніка ваенізаванай пажарнай службы ў Слоніме Васіля Рубца. Выслухаўшы мяне, ён паведаміў, што пытанне аб стварэнні духавога аркестра пажарнай службы ўжо абмяркоўваецца. А каб аднавіць традыцыю, якая існавала шмат гадоў назад і з'яўляецца часткай гісторыі Слоніма, Васіль Рубец паабяцаў звярнуцца па дапамогу ў гарвыканком. Магчыма, пройдзе пэўны час, і слонімцы зноў пачуюць над горадам чароўныя гукі мелодыі нашага славутага земляка Міхала Агінскага.

І вось гэты час наступіў. У канцы ліпеня ў 6.30 раніцы на вежы будынка пажарнай службы ў Слоніме загучаў паланез Агінскага. "Пакуль паланез будзе гучаць адзін раз на дзень, але з цягам часу, як і шмат гадоў назад, слонімцы змогуць яго чуць два разы на дзень", — сказаў усё той жа Васіль Рубец. Ён сваё слова стрымаў. І кожную раніцу ў Слоніме гучыць славуты паланез Міхала Агінскага "Развітанне з Радзімай". Адрадзілася яшчэ адна традыцыя.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

г. Слонім.

**НА ЗДЫМКУ: слонімскія пажарныя, 1916 год.**




КІНО

# «ДЫЯРЫЮШ НАВАГРАДСКІ»

Гэта назва новага кароткаметражнага фільма, знятага студыяй "Летапіс" Беларусьфільма ў 1997 годзе і прысвечанага Адаму Міцкевічу ў сувязі з 200-годдзем з дня яго нараджэння, якое споўніцца 24 снежня 1998 года.

Юбілей вялікага паэта адзначаецца ў многіх краінах свету, асабліва ж шырока ў Польшчы, Беларусі, Літве і Францыі, з якімі звязана было жыццё, дзейнасць і творчы шлях Міцкевіча.

Побач з адбудовай мемарыяльнага комплексу ў Завоссі, выданнем шэрагу кніг ("Адам Міцкевіч і Беларусь", 1997; "Філаматы і філарэты", 1998; "У вянок Адаму Міцкевічу", 1998), серыяй карцін беларускіх мастакоў, падрыхтоўкай да ўзвядзення помнікаў А. Міцкевічу ў Гродне і Мінску, кінастужка студыі "Летапіс" (сцэнарый У. Халіпа, рэжысёр Р. Ясінскі, аператар С. Пятроўскі) з'яўляецца яшчэ адным мерапрыемствам, якім грамадскасць нашай рэспублікі ўшаноўвае юбілей свайго знакамітага земляка.

Дваццаць хвілін для сустрэчы з Адамам Міцкевічам — гэта вельмі мала. Аднак стваральнікі фільма пастараліся ўмясціць у гэтыя рамкі асноўныя падзеі з жыцця паэта, ілюструючы фотаздымкамі, фрагментамі яго літаратурных твораў, суправаджаючы цудоўнай і гарманічна дапасаванай да зместу і вобразаў музыкай Ф. Шапэна. Услед за эпізадычнымі вобразамі на экране і дыктарскім каментарыем мы як быццам перагортваем старонкі старога сямейнага альбома.

СПОРТ



**Сярэбраны медаль у Францыі на першынстве Еўропы сярод юніёраў па водна-лыжнаму спорту ў фігурным катанні заваявала вучаніца 6-га класа 10-й сярэдняй школы Наваполацка Маша ВЕРАМЧУК (на здымку).**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

# «З ДАЗВОЛУ КАРАЛЯ І ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ»

## ДАСЦІПНЫ ЛЮД ПАСПАЛІТЫ

Дзве суседкі разважалі пра жыццё-быццё, і адна запыталася, што рабіць, бо яе мужык амаль штовечар наведвае карчму, занядбаў гаспадарку і сям'ю.

— Ёсць, даражэнькая мая, толькі адзін выхад.

— Які ж гэта?

— Зрабіць шынок у сваёй хаце.

Зайшоў неяк у карчму бедны студэнт. Прыняўшы больш-менш дастойны выгляд, ён заказаў сабе добры пачастунак. А калі бедалага, які не меў грошай, падсілкаваўся, да стала наблізіўся служка і спытаў, ці не падаць чаго яшчэ.

— Як сабе хочаш, — адказаў студэнт.

— Можа, пазваць гаспадара? — прапанаваў служка, калі нічога больш не дабіўся ад кліента.

— Як сабе хочаш, — пачулася ў адказ.

З'явіўся карчмар, які раззлавана заявіў, што зараз возьме гэтага госця за каўнер і выкіне на вуліцу.

— Як сабе хочаш, — абыякава вымавіў той.

Раз'юшаны гаспадар, забыўшыся пра грошы, схапіў студэнта, які і не бараніўся, пацягнуў да дзвярэй і выштурхнуў...

Мяшчанка-ўдава заказала літургію ў царкве і заплаціла ўсяго паўгроша. Святар стаў за аналоем, але службу не пачынаў, толькі гартаў і гартаў Евангелле, быццам бы нешта шукаючы. Стаяла зіма, ужо і ногі ў кабеты сталі мерзнуць, а ля алтара панавала цішыня. Нарэшце заказчыца не вытрымала і спытала, у чым справа. "Ды вось ніяк не магу знайсці тое месца ў кнізе, якое служыцца за паўгроша", — патлумачыў клірык. І прыйшлося эканомнай удаве патроіць суму.

Захварэў майстар-рамеснік, ды так, што неўзабаве стаў канаць. Жонка, якая была ўвесь час пры ім, пабегла да суседзяў, каб пазычыць свечку-грамнічку, і запаліла яе каля ложа паміраючага. Але смерць перастала спяшацца, затрымалася на паўдарозе. Гэта раззлавала кабету, і яна давай падганяць мужа: "Канай хутчэй, каб свечка дарма не гарэла, бо прыйдзецца плаціць за новую".

Сустрэліся неяк езуіт з арыянскім міністрам (святаром). Арыян кульгаў на адну нагу, што выклікала кпіны прадстаўніка Ордэна Ісуса:

— Бачу, браце мой, што кульгаеш ты не толькі ў веры, але і ў звычайнай хадзьбе.

— Дык лепей, кульгаючы, уступіць у Царства Нябеснае, чым здаровымі нагамі ў ваш Ордэн, — адпарыраваў міністр.

Два мужыкі верхам на адным кані выязджаюць з горада. Насустрач ім едзе шляхціц, які пытаецца:

— А колькі там гадзін было на ратушным гадзінніку, ці не скажаце?

— Ды і не ведаю, пане, — адказаў той, што сядзеў спераду, — няхай скажа мой сусед, бо ён выехаў пазней.

**З кнігі Л. КАЗЛОВА.**

**Рэдактар**
**Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
**Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;**
**Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;**
**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).**



**НАШ АДРАС:**
**220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.**

**Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 284-76-56, 213-37-82.**



**Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).**
**Тыраж 1 835 экз. Індэкс 63854. Зак. 1542.**
**Падпісана да друку 7. 09. 1998 г. у 12.00.**
**Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.**